



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

14 ліпеня 2017 года №28 (1159)




# 100 балаў – па хіміі, 99 – па біялогіі



Вілейскі "стобальнік" Ягор Белахвостаў плануе стаць стаматолагам.

старонка 5

Фота vk.com

## Закончыўся суд над настаўніцамі па справе дзяўчынкі, загінулай на бульбе

старонка 4

## Занятак не для слабых на нервы: як з тушы жывёл стварыць прыгажосць

старонкі 20-21

## З удзельнікамі сплаву па Віліі сустрэўся міністр навакольнага асяроддзя Літвы

старонка 2

## "Паступіць ва ўніверсітэт у Германіі прасцей, чым у Беларусі"

старонкі 18-19

НАВІНЫ

## Пытанне санацыі "Забудовы" вырашыць суд

МАЛАДЗЕЧНА

Рашэнне аб падаўжэнні санацыі будаўнічай кампаніі "Забудова" прыме суд.

За мінулы год "Забудове" ўдалося скараціць страты амаль у пяць разоў, на 15% нарасціць вытворчасць прадукцыі. У той жа час прадпрыемства не змагло пазбавіцца ад няпрофільных актываў.

Буйны вытворца будаўнічых матэрыялаў прызнаў сябе банкрутам у 2015 годзе.

**МЛЫН.BY.**

## З'явяцца турыстычныя маршруты для людзей з абмежаванымі магчымасцямі

МЯДЗЕЛ

Рэалізуюць спецыяльны праект валанцёры мясцовага аддзялення Чырвонага Крыжа. Што канкрэтна прапануюць асаблівым турыстам? Па-першае, падвоз да месца адпачынку. Па-другое, арганізуюцца такія пункты маршруту, якія будуць працаваць на здароўе людзей.

Расказвае кіраўнік раённай арганізацыі Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа **Галіна Сёмка**:

– У нас шмат азёр, нашы інваліды не могуць там загараць. Можа, для іх арганізаваць нейкае адмысловае месца. Ідэй у нас шмат, зможам рэалізаваць мы адну-дзве ў год, не болей. Гэта міні-ініцыятывы, якія потым створаць платформу і мы будзем далей дзейнічаць без падтрымкі праекта і развівацца самі.

**Паводле ctv.by.**

## У Астравецкім раёне новы начальнік аддзела ЖКГ

АСТРАВЕЦ

**Віктар Казіміравіч Пашкевіч** быў зацверджаны 28 чэрвеня пасля таго, як яго папярэднік **Віктар Аляксандравіч Славінскі** пайшоў на заслужаны адпачынак.

Віктар Казіміравіч нарадзіўся 12 лютага 1990 года ў Вільні. Закончыў Трокеніцкую базаву і Варнянскую сярэднюю школы, Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію.

Працаваў у землеўпарадкавальнай службе на розных пасадах, у апошні час – намеснікам начальніка.

**"Астравецкая праўда".**

## Ладзяць фотапраект "Захопленыя чытаннем"

ВАЛОЖЫН

Супрацоўнікі Валожынскай цэнтральнай бібліятэкі запрашаюць паўдзельнічаць сваіх землякоў.

Для ўдзелу неабходна сфатаграфавацца са сваёй кнігай і даслаць здымак на адрас biblvologin@mail.ru да 15 жніўня. У лісце трэба распавесці, чаму менавіта гэтая кніга з'яўляецца для вас асаблівай.

Вынікі конкурсу падвядуць 15 верасня на Дні бібліятэк. З самых работ складуць фотаальбом, які прадставяць у кастрычніку на Дні работнікаў культуры.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пройдзе моладзевая акцыя

СМАРГОНЬ

У цэнтральным парку 14 ліпеня адбудзецца флэш-акцыя "Захавай сябе для жыцця".

Яна будзе прысвечаная здароваму ладу жыцця і святу Берагіні. Удзельнікаў чакаюць конкурсы і віктарыны. Напрыканцы створаць партрэт Берагіні – абаронцы людзей паводле славянскіх павер'яў.

Акцыя пачнецца а 17 гадзіне ў парку.

**"Гродзенская праўда".**

## Знайшлі адну з найстарэйшых фатаграфій, зробленую ў Ашмянах

АШМЯНЫ

На здымку больш чым 100-гадовай даўніны сын класіка беларускай літаратуры **Тамаш Багушэвіч** з жонкай і швагеркай.

Фота знайшлі ў сямейным альбоме праўнучкі **Францішка Багушэвіча**, якая цяпер жыве ў Варшаве.

**Віктар ШУКЕЛОВІЧ, "Ашмянскі веснік".**

## Ля каледжа ў Вілейцы паставілі лаўку швачкі

ВІЛЕЙКА

11 ліпеня ля вілейскага каледжа ўстанавілі чарговы арт-аб'ект – лаўку, прысвечаную прафесіі швачкі.

На ажурным каванным стале стаіць швейная машынка. А пад яе іголкай ужо ляжыць "тканіна". Пад сталом непасрэдна сама лаўка, на якую можна прысесці.

**Аддзел інфармацыі.**

# З удзельнікамі сплаву па Віліі сустрэўся міністр навакольнага асяроддзя Літвы

ВІЛЕЙКА


Фота забяспечанае Міхаілам МІХАЛЕВІЧАМ.

На шляху да Коўна.

Сустрэчамі са старымі сябрамі, літоўскімі нацыянальнымі стравамі і ўсведамленнем таго, што не памерла ідэя народнай дыпламатыі, запомнілася віляйчаніну **Міхаілу Міхалевічу** сёлетняя, юбілейная, экспедыцыя "Шляхам Тышкевіча".

Шмат уласнага часу і сродкаў на падрыхтоўку экспедыцыі, па словах Міхаіла Міхайлавіча, аддаў прэзідэнт падарожнікаў Літвы **Альгімантас Юцэвічус**. Ён быў асноўным арганізатарам самай першай экспедыцыі ў 2007 годзе.

Сёлета ўдзельнікі экспедыцыі змаглі сустрэцца са старымі сябрамі па сплаве. Гэта **Віціс Відунас**, **Гражына Галубоўска**, **Юдзіта Пуйшыце**, **Галіна Ёрдыене**, **Часлаў Аўтаконіс і Саламея Аўтаконе**, **Рымас Сайдзе** і іншымі.

Некаторыя за свае сродкі прыехалі з Літвы ў Беларусь, каб пачаць экспедыцыю ад старта – вёскі Камена Вілейскага раёна.

У кампаніі ўдзельнікаў быў літоўскі кінарэжысёр **Вітаўтас Дамашавічус**.

Сустрэўся з удзельнікамі сплаву і міністр прыродных рэсурсаў Літвы **Кестуціс Навіцкас**. У свой час Навіцкас, яшчэ не будучы міністрам, і сам прымаў у дзел у экспедыцыі.

Знайшліся і новыя сябры **Раймондас Пуйшыс**, **Раландас Якстыс**, **Ралондас Барткуна** – гаспадары літоўскіх аграсядзібаў.

На сядзібе Ралондаса Барткуны цэлы вечар гучалі песні пад гітару на васьмі мовах свету.

Міхаілу Міхалевічу запомнілася наведванне музея ў літоўскім гарадку Нямчыне. Тут супрацоўнікі бясплатна правялі экскурсію, пачаставалі тутэйшымі, пачаставалі тутэйшымі нацыянальнымі стравамі.

– Потым даведаўся ад супрацоўніцы спадарыні **Люцыны**, што рабілі яны ўсё гэта за ўласны кошт, – успамінае мой субяседнік. – А музейныя работнікі ў Літве, як і ў нас, людзі далёка не багатыя.

Па назіраннях Міхаіла Міхалевіча, за ўсе дзесяць гадоў экспедыцый ён заўважаў, як цёпла літоўцы адносяцца да прыроды, асабліва да даліны Нерыса (Віліі). Прызнаецца, што на гэта заўжды глядзіць з зайздрасцю.

Засмуціла Міхаіла Міхайлавіча тое, што па стане здароўя ён не мог прайсці ўвесь маршрут.

Непрыемна ўразіла і наведванне Докшыцкага раёна. Лес каля Стэп-каменя – вядомага помніка даўніны – выразаны начыста.

Не парадавала ў гэтым плане і Вілейшчына. Уздоўж Віліі каля вёсак Асінаўка і Швяды лес таксама выразалі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Памяти Ивана Николаевича Лысенка

**2 июля на 58 году ушёл из жизни Лысенок Иван Николаевич, уроженец деревни Крупейки Гомельской области, житель Сморгони. Он был верным другом, прекрасным семьянином, заботливым отцом, любящим дедушкой, а также хорошим товарищем и коллегой. Это печальное известие стало неожиданностью для близких, коллег, знакомых.**



Боль утраты сложно пережить, но светлая память об этом человеке необычайной энергии и доброго сердца будет всегда с нами.

Человека судят по поступкам и делам. Благодаря деятельности Ивана Николаевича память о нём будет жить даже среди тех людей, которые не были с ним знакомы. Ведь непосредственно его трудами готовилась к открытию первая аптека "Планета Здоровья" и все последующие – сейчас это сеть аптек по всей стране. Своему делу Иван Николаевич посвятил более 20 лет.

Работа была его детищем, ведь он, как никто, знал все тонкости своего дела. Иван Николаевич начал работу в компании с мастера участка, а в скором времени получил должность начальника отдела. Он был специалистом широкого профиля, каких мало: прекрасно владел и мастерком, и электротехническим оборудованием.

**Коллеги всегда отмечали его исключительную черту – "мастер на все руки". Любое дело в его руках спорилось.**

– К работе он всегда подходил ответственно, – отмечают коллеги. – Любой объект, за который бы он не брался, всегда делал, как для себя, на совесть. Иван Николаевич был прекрасным организатором: если поставил задачу перед подчинёнными, её не нужно было контролировать, дело спорилось. Коллектив в его бригаде также был, как на подбор, все трудолюбивые и ответственные: все старались соответствовать, глядя на трудолюбие и требовательность своего начальника.

И это при том, что со всеми он был в дружеских отношениях.

Сам он очень гордился тем, что руководство ему доверяло важные и ответственные проекты. Это было лучшей оценкой его деятельности и стимулом двигаться дальше.

Иван Николаевич не мог обходиться без работы, поэтому с нетерпением ждал появления новых объектов или реконструкции существующих. Даже во время отпуска он всегда беспокоился, как продвигаются дела, всё ли делается в срок.

Иван Николаевич с радостью делился своим опытом и накопленными знаниями с коллегами – кому, как не нам, продолжать и развивать его дело?

– С каким бы вопросом к нему не обращались – всегда поможет, посоветует, – рассказывают на работе. – Это был очень тактичный человек. Если видит, что человек неправ, никогда не осудит, резкого слова не скажет, наоборот, спокойно и аргументированно объяснит, поможет человеку принять верное решение.

Иван Николаевич был прекрасным мужем, отцом, дедушкой. Всегда заботился и переживал о жене, двух дочках и внучке.

Вряд ли найдутся такие слова, которыми можно заполнить пустоту от потери родного человека. Коллектив сети аптек "Планета Здоровья" понимает, как велико горе семьи и невосполнима утрата. Выражаем свои соболезнования родным. Помним и скорбим вместе с вами.

**Коллектив сети аптек "Планета Здоровья".**

НАВІНЫ: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ




Фота забяспечанае Таццянай МАЙСАК.

Груз з Германіі на шляху ў “Надзею”.

# Фотаэлектрастанцыю прывезлі ў “Надзею” на сямі грузавіках

ВІЛЕЙКА

**Сонечныя модулі, каркасы для іх устаноўкі і іншыя неабходныя для фотаэлектрычнай станцыі дэталі прывезлі ў дзіцячы цэнтр “Надзея-21стагоддзе”.**

Да 31 ліпеня недалёка ад Ільі ўстановяць электрастанцыю на сонечных батарэях магутнасцю 600 кілават.

Адпраўніком станцыі з Германіі стала грамадскае аб’яднанне “Жыццё пасля Чарнобыля”. Загружалі фуры ў трох гарадах: Обербайерне, Траўнштайне і Франкфурце-на-Одэры.

– Мы сталі першай у Беларусі арганізацыяй, якая атрымала дазвол на карыстанне замежным грузам яшчэ да таго, як гэты груз прыехаў у Беларусь, – распавяла спецыяліст па сувязях з грамадскасцю “Надзеі” **Таццяна Майсак**.

Па словах жанчыны, гэта было не проста. Аднак удалося выйграць час. І адразу пасля мытні груз накіраваўся на Вілейшчыну.

На полі ля Ільі ўжо падрыхтавалі пляцоўку, зрабілі дарогу да будоўлі.

8 ліпеня ўстанавілі першыя сонечныя модулі. 10 ліпеня пачалі забіваць палі.

За магчымасць будаваць фотаэлектрастанцыю змагаліся дзевяць будаўнічых кампаній. У выніку тэндар выйграла кампанія з Магілёва, у якой ужо ёсць досвед працы такога будаўніцтва.

По словах Таццяны Майсак, фотаэлектрастанцыі ў Беларусі ўжо выкарыстоўваюць. Аднак сярод сацыяльных устаноў рэспублікі “Надзея” першая займае станцыю на сонечных батарэях.

Перавагі працы сонечнай батарэі ў цэнтры ўжо ацанілі. Яна некалькі год стаіць на складзе для дроў і цалкам забяспечвае падагрэў вады для выхаванцаў і супрацоўнікаў “Надзеі”.

**Мяркуюць, што новая станцыя не толькі забяспечыць энергіяй цэнтр. Гэта яшчэ і дадатковыя грошы.**

Як расказала Таццяна Майсак, па правадах энергія, атрыманая ад сонца, пойдзе ў агульную сетку.

Будзе фіксавацца, колькі энергіі выкарысталі ў “Надзеі”, а лішнюю цэнтр зможа прадаваць дзяржаве. Атрыманыя грошы пойдуць на развіццё “Надзеі”.

**Нямецкія партнёры выступаюць і спонсарамі, і кансультантамі.**

Ад 9 да 11 ліпеня ў “Надзеі” жыў **Харальд Фрындт** з Траўнштайна, які назіраў за мантажом станцыі і кансультаваў будаўнікоў.

Урачыста адкрыць фотаэлектрастанцыю плануюць 28 верасня.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## Эколаг Антон Гаховіч: варыянт нядрэнны, але эканамічна не заўсёды выгадны

**У цэнтры экалагічных рашэнняў растлумачылі, што сонечных дзён у Беларусі дастаткова. Таму выкарыстанне фотаэлектрастанцыі рацыянальнае.**



А вось эканамічна пакуль не выгадна. Па словах Антона (на фота), тэрмін акупнасці станцыі 30-40 год. Калі паралельна прадаваць энергію дзяржаве, тэрмін скароціцца ўдвая.

Дзяржава абяцае купляць энергію сонца амаль у тры разы даражэй. Аднак на практыцы эколагі пераканаліся, што так бывае не заўсёды. Часта дзяржаўныя службы неахвотна падключаюць такіх абанентаў.

Колькасць сонечнага святла мяняецца ў залежнасці ад часу сутак і пары года. Таму зімой уладальнікі фотаэлектрастанцый могуць сутыкнуцца з недахопам энергіі. Тады аптымальны варыянт – побач з устаноўкай на сонечных батарэях зрабіць невялікі вятрак.

І ўсё ж, на думку Антона, аўтаномная фотаэлектрастанцыя для сацыяльнай установы – нядрэнны варыянт. Асабліва, калі ёсць крыніца фінансавання. Ёсць энергія, за якую не трэба плаціць.

ЛІЧБА НУМАРА

**35 кілават**

столькі электраэнергіі ў месяц спажывае ваш камп’ютар, калі ён уключаны 5 гадзін у дзень

Паводле ecoblog.pro

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.07 | 13.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9557 | **1,9780** |
| Еўра | 2,2213 | **2,2650** |
| Злоты, 10 | 5,2121 | **5,3375** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2813 | **3,2612** |
| Грыўня, 100 | 7,4945 | **7,6326** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ”** | **5.07** | **12.07** |
| Еўра | 2.2000/2.2250 | **2.2500/2.2800** |
| Долар ЗША | 1.9400/1.9600 | **1.9750/1.9900** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.07 | 12.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,98 | **16,85** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,93 | **6,65** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Селядзец, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,30 | **1,30** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | **1,80** |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,10 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,30** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,30 | **1,20** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,35 | **1,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,60 | **1,60** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,10 | **4,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,00 | **4,50** |
| Дыня, 1 кг | 3,50 | **3,00** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 1,85 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | **1,50** |
| Перац, 1 кг | 3,80 | **2,50** |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | **1,20** |
| Вінаград, 1 кг | 4,10 | **4,90** |
| Клубніцы, 1 кг | 2,50 | **4,50** |
| Чарэшні, 1 кг | 4,50 | **5,50** |
| Персікі, 1 кг | 5,00 | **4,00** |
| Нектарыны, 1 кг | 6,00 | **4,00** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,00 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,75** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | **2,30** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 4,20 | **4,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба (маладая), 1 кг | 1,30 | **1,20** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

## Рэўнасць і алкаголь прывялі да забойства

**ВІЛЕЙКА**

7 ліпеня каля гадзіны дня ў адной з кватэр у Вілейцы знайшлі труп 43-гадовага мужчыны.

Як расказала "Рэгіянальнай газеце" афіцыйны прадстаўнік Камітэта судовых экспертыз па Мінскай вобласці **Яўгенія Куневіч**, труп быў з прыкметамі гвалтоўнай смерці.

Следча-аператыўная група ўстанавіла, што падазраваная ў забойстве жанчына – 33-гадовая жыхарка Вілейкі, раней судзімая за наркотыкі і крадзеж.

Кампанія з некалькіх чалавек выпівала ў кватэры агульнага знаёмага. У нейкі момант падазраваная і пацярпелы засталіся адны. У размове мужчына сказаў, што нядаўна у гэтым жа пакоі быў з іншай жанчынай.

Падазраваная пакрыўдзілася, узяла на кухні нож і стукнула крыўдзіцеля. Потым жанчына спалохалася, пабегла дамоў і расказала пра здарэнне сваёй маці. Цела мужчыны знайшла дзяўчына з кампаніі, якая першай зайшла ў пакой.

Загінулы – беспрацоўны, раней судзімы жыхар вёскі Жары, што на Вілейшчыне.

У крыві ў жанчыны знайшлі алкаголь.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Случчыне карова забіла двухгадовага хлопчыка

У вёсцы Міхейкі карова забіла двухгадовага хлопчыка.

Мяркуюць, што двое дзяцей з мамай вялі карову на пашу. У нейкі момант карова рэзка тузанулася і пабегла.

Хлопчык заблытаўся ў шлейцы, за якую была прывязаная жывёліна. І карова некалькі метраў працягнула яго па зямлі.

Ад атрыманых траўмаў дзіця памерла.

**Паводле газеты "Інфа-кур'ер".**

## У Ваўкавыску п'яная маці выкінула пакет з немаўлём з пятага паверха

Раніцай 5 ліпеня ў адным з двароў у Ваўкавыску жанчына знайшла цела немаўля, паведамляе Волковыск.by.

Цела дзіцяці знайшла дворнічыха у адным з двароў на вуліцы Барычэўскага, калі прыбірала тэрыторыю. Паводле звестак рэсурсу, пакет з дзіцем скінула з пятага паверха яго маці.

Аператыўная група, якая прыбыла на месца здарэння, апытала жыхароў бліжэйшых дамоў. Па папярэдніх дадзеных, удалося знайсці падазраваную, якая была ў стане моцнага алкагольнага ап'янення.

**Паводле tut.by.**





# Два гады настаўніцы не могуць займацца педагагічнай дзейнасцю

## Скончыўся суд па справе дзяўчынкі, загінулай на бульбе

**МАЛАДЗЕЧНА**

**12 ліпеня прайшло апошняе судовае пасяджэнне па справе настаўніц за смерць 13-гадовай Вікторыі Папчэні, якая загінула падчас уборкі бульбы пад Маладзечнам.**




Фота tut.by.

Злева направа: Вольга Завадская і Ірына Апанасевіч у чаканні прысуду.

Нагадаем, што настаўніцу фізікі **Ірыну Апанасевіч** і настаўніцу французскай мовы **Вольгу Завадскую** абвінавачвалі ў неналежным выкананні сваіх абавязкаў па бяспецы жыцця і здароўя вучаніцы восьмага класа падчас выканання сельскагаспадарчых работ, што пацягнула па неасцярожнасці смерць дзяўчынкі.

Мама загінулай Юлія прасіла не пазбаўляць настаўніц свабоды і працы, муж падтрымаў яе. Да матэрыялаў справы далучылі хадайніцтвы ад прафсаюза і бацькоўскага камітэта і калектыву 11 школы за змякчэнне пакарання настаўніцам.

За Апанасевіч і Завадскую гатовыя парушчыца, прасілі не пазбаўляць свабоды і не забараняць працаваць настаўніцамі.

У ходзе судовых спрэчак абаронцы звярталі ўвагу на тое, што ўборку бульбы наўрад ці можна лічыць адукацыйным працэсам. Абаронца Завадскай **Наталля Кашкан** адзначыла, што вінаватыя ў здарэнні не настаўніцы, а іншыя людзі.

У прыватнасці, кіроўца МАЗа, які не паглядзеў, ці былі ззаду людзі. Аддзел адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама, які не даў часу і магчымасці як след падрыхтавацца школе да ўборкі бульбы. Вінаватыя і кіраўнікі школы, якія сабралі дзяцей без уліку іх узросту, стану здароўя і пісьмовай згоды бацькоў.

Аднак суд прызнаў настаўніц вінаватымі ў неналежным выкананні абавязкаў. Кожнай з іх прысудзілі па два гады абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу. Акрамя таго два гады абвінавачаныя не змогуць працаваць педагогамі. Яшчэ адно пакаранне – штраф для кожнай 100 базавых велічынь (2300 рублёў) на карысць дзяржавы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Маладзечне праводзяць акцыю "Цвярозы кіроўца"

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ад пачатку 2017 года ў Маладзечанскім раёне адбылося 22 дарожныя здарэнні. Па віне нецвярозых кіроўцаў – два.

Ад 14 да 17 ліпеня маладзечанская ДАІ праводзіць акцыю "Цвярозы кіроўца".

У яе рамках супрацоўнікі міліцыі праводзяць прафілактычныя гутаркі ў працоўных калектывах, дзе паведамяць пра акцыю.

Запланаваныя таксама рэйдавыя мерапрыемствы па ўстанаўленні фактаў кіравання транспартам у стане алкагольнага ап'янення.

Калі вы сталі сведкам або відавочцам кіравання транспартам у стане алкагольнага ап'янення або маеце сапраўдную інфармацыю пра асоб, схільных да такіх дзеянняў, просьба паведаміць па тэлефонах:
**8 (0176) 77 16 56**
або **102.**

## Шукаюць сведак начной аварыі на дарозе Маладзечна-Ілья

**МАЛАДЗЕЧНА**

15 красавіка каля трох гадзін ночы кіроўца "Аўдзі-80", ураджэнец Маладзечна, выехаў на паласу сустрэчнага руху і з'ехаў у кювет, дзе машына перакулілася.

У выніку пацярпела дзяўчына, пасажырка "Аўдзі-80".

ДАІ просіць сведак і відавочцаў здарэння звярнуцца ў АДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: вул. Т. Дудко, 1-18 або па тэлефонах:
8 (0176) **74 53 40, 74 53 43** ці 102.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

## Следчыя шукаюць сведак хуліганства ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА**

Раённы аддзел Следчага камітэта Маладзечна шукае сведак і відавочцаў здарэння, якое адбылося 25 сакавіка ў 20:15 недалёка ад дзіцячай бальніцы каля дома №6 па вуліцы Багдана Хмяльніцкага.



Патрэбныя відавочцы дзеянняў гэтага чалавека.

Невядомы мужчына стукнуў па патыліцы 25-гадовую грамадзянку К.

Мужчыну на выгляд 25 гадоў, высокі, сярэдняга целаскладу. Апрануты ў цёмнае адзенне.

Сведак і відавочцаў злачынства просяць патэлефанаваць на нумарах:
**8 (0176) 77 04 69,**
**8 (029) 616 92 71,**
**8 (029) 701 92 71**
ад 9:00 да 18:00 следчаму **Раману Арцем'еву.**

**Юры БАГУШЭВІЧ, старшы следчы маладзечанскага РАСК.**

## Узарваўся газавы балон

**СМАРГОНЬ**

Паведамленне аб здарэнні выратавальнікі атрымалі 10 ліпеня ў 18:20. Трое маленькіх дзяцей і жанчына атрымалі апёкі рознай ступені цяжкасці, піша Tut.by са спасылкай на прэс-службу МНС.

Газавы балон аб'ёмам 25 літраў выбухнуў падчас адпачынку кампаніі на беразе возера каля вёскі Белая Смаргонскага раёна.

Апёкі атрымалі 29-гадовая жанчына, яе 6-гадовы сын і дзве дзяўчынкі трох і пяці гадоў.

Стан пацярпелых ацэньваецца як цяжкі. Прычына выбуху высвятляецца.

**Аддзел інфармацыі.**

ТЭМА НУМАРА



Злева направа: Ягор Белахвостаў з аднакласнікамі Максімам Маліноўскім і Уладзіславам Фадзеевым. Фота vk.com.

# На ЦТ віляйчанін амаль “дагнаў” ліцэй БДУ

ВІЛЕЙКА

**По біялогіі чакаў “сотні”, таму 99 балаў першапачаткова засмуцілі.**

Але зразумеў, што 99 – не самы дрэнны вынік, і сумныя думкі хутка сышлі – так прыгадвае ўдзел у сёлетнім цэнтралізаваным тэставанні выпускнік вілейскай гімназіі “Логас” **Ягор Белахвостаў.**

Узорнымі вынікамі хлопец парадаваў і сям'ю, і настаўнікаў, і вілейскі аддзел адукацыі, і, вядома, сябе. Па хіміі абітурыент набраў магчымы максімум – 100 балаў.

### Зацікавіўся прафесіяй у стаматалагічным крэсле

Па біялогіі зарабіў 99, па рускай мове – 96. Дапоўнілі скарбонку абітурыента 96 балаў школьнага атэстата: некалькі гадоў запар Ягор вучыўся на “выдатна”, мае медаль.

Пасля насычанага чэрвеня хлопец адпачывае ў летніку на Вілейшчыне. Адкуль і падзяліўся з нашай газетай уражаннямі ад тэставання і сваімі планамі.

Па словах Ягора, у яго было некалькі варыянтаў для паступлення. У выніку спыніцца вырашыў на Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце, а менавіта на стаматалагічным факультэце. Медыцына цікавая яму. Таму спадзяецца стаць добрым спецыялістам і дапамагаць людзям. Кажа, прафесіяй зацікавіўся, калі хадзіў лячыць зубы.

### Можна і без рэпетытараў, але...

– Да тэставання рыхтаваўся даволі ўпарта, – прыгадвае абітурыент падзеі апошніх навучальных гадоў. – Наведваў рэпетытараў па трох прадметах.

Падрыхтоўку па хіміі скончыў самастойна. Прызнаецца, што шмат паўтараў і замацоўваў свае веды, каб у час тэставання быць больш упэўненым ва ўласных сілах.

**Пры гэтым хлопец знаходзіў час для захапленняў.**

На маё пытанне, ці магчыма падрыхтавацца да тэстаў без дапамогі рэпетытара, хлопец адказвае ўпэўнена: магчыма. І дадае, што рэпетытары не даюць новых ведаў.

Яны працуюць з тым, што сістэматызуюць тыя веды, якія ў вучня ўжо ёсць. Аднак каб якасна самастойна рыхтавацца, трэба ўмець правільна размяркоўваць сілы і час.

### “Сотняй” па хіміі падзяліўся з мамай

Па словах Ягора, высокія балы на тэставанні яго не вельмі здзівілі. Дзіўна для хлопца тое, што ў час напісання тэстаў зусім не было хвалявання. Асабліва тады, калі ўжо запоўніў бланк. Рэпетыцыйнае тэставанне было для мяне больш хвалюючым, прыгадвае Ягор.

96 балаў па рускай мове ўзрадавалі Ягора.

Запаветнай “сотні” не чакаў: ведаў, што будуць памылкі.

Ну па хіміі з біялогіяй і каментаваць не варта. Першай, з кім хлопец падзяліўся стобальным вынікам па хіміі, была мама Ягора.

Што, акрамя добрых ведаў, трэба абітурыенту, каб паспяхова здаць тэставанне? На думку Ягора, упэўненасць у сабе і здольнасць правільна размяркоўваць час.

Ягор расказаў, што не займаўся выключна вучобай. У яго была магчымасць і жаданне праявіць сябе з розных бакоў, і ён гэта рабіў. Удзельнічаў у канцэртах, хадзіў у паходы, займаўся спортам. Галоўнае, не саромеецца, перакананы мой субяседнік.

### Намеснік дырэктара гімназіі: Ягор у нас эрудыт, інтэлектуал, разумнік

Па словах **Алы Патапавай**, намесніка дырэктара па вучэбнай рабоце гімназіі “Логас”, Ягор на працягу некалькіх гадоў займаўся выключна на “выдатна”. Ды і з паводзінамі пытанняў не было.

Па словах педагога, выдатнымі дадзенымі Ягор надзелены ад прыроды, ён разумны, працаздольны. Любы школьны прадмет даваўся хлопцу без асаблівых цяжкасцяў.

Калі ж вучань прыкладаў сілы, то станавіўся ўдзельнікам і пераможцам прадметнай алімпіяды. У мінулым навучальным годзе Ягор аказаўся лепшым знаўцам хіміі ў раёне, удзельнічаў і ў абласной алімпіядзе.

Што пра яго можна сказаць? Эрудыт, інтэлектуал, разумнік.

**Ягор іграе на гітары, добра спявае, малюе, піша ўласныя песні. Яго гітара не раз гучала і са сцэны гімназіі, і ля вогнішча ў лесе. Бо турыст і спартсмен – гэта таксама пра Ягора.**

– Не так даўно ў інтэрнэце чытала пра выпускнікоў ліцэя пры БДУ, якія набралі па 399 балаў, – кажа Ала Патапава. – Прыемна, што вучань вілейскай гімназіі зусім ненамнога адстаў ад іх.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## Адчулі сябе выратавальнікамі

ВІЛЕЙКА

**Трэці год запар на базе даўгінаўскай школы працуе лагер “Юны выратавальнік”.**

Лагер працаваў летам. Але ад красавіка пад кіраўніцтвам настаўніка дапрызыўнай падрыхтоўкі **Віталя Леберта** дзеці рыхтаваліся да разнастайных спаборніцтваў і конкурсаў, якія праводзяцца ў абласным палявым лагеры юных выратавальнікаў Мінскай вобласці.

Усе мерапрыемствы кожнага дня лагера былі размеркаваныя па наступных відах дзейнасці: пазнавальнай, творчай, гульнёвай і камунікатыўнай.

Дзеці наведвалі пажарны выратавальны пункт №13 у Даўгінаве. Былі на экскурсіі ў Вілейскім раённым аддзеле па надзвычайных сітуацыях і Вілейскай выратавальнай станцыі. Тут яны не толькі пакаталіся на катары, але і патрэніраваліся ў розных відах спартыўных конкурсаў, якія будуць праводзіцца ў абласным лагеры.

У дзень здароўя ў лагеры зладзілі таварыскую сустрэчу па валейболе і віктарыну.

На Плешчаніцкім вадасховішчы ў Лагойскім раёне мы ўдзельнічалі ў абласным палявым лагеры “Юны выратавальнік” і злёце Мінскага абласнога аддзялення Беларускай моладзевай грамадскай арганізацыі выратавальнікаў-пажарнікаў.

Пасля ўстаноўкі палатачнага лагера і яго афармлення пачаўся першы конкурс – прадстаўленне лагера. Дзеці назвалі сваё месца “Гасцінное падвор'е Вілейкі”. Па ўмовах конкурсу неабходна было прадставіць гісторыка-культурныя каштоўнасці свайго раёна. Таму кожная палатка нашага гарадка была аформленая як адно са знакамітых месцаў Вілейшчыны.

**Кацярына Красоўская, Яўген Гапановіч, Дыяна Седая, Віктар Гурновіч, Соф'я Пратасевіч** і іншыя выхаванцы лагера расказвалі пра знакавыя мясціны свайго краю. Гэта архітэктурныя і гістарычныя помнікі Вілейкі, радыёстанцыя “Антэй”, турыстычныя комплексы, родны аграгарадок – Даўгінава.

Напрыканцы прадстаўлення дзеці падкрэслілі, што Вілейка і Вілейшчына – месцы еўрапейскага гучання. Тут многа свайго, адметнага, чым можна здзіўляць прыезджых.

У гэты ж дзень адбылася дыскатэка, якая дазволіла пазнаёміцца і згуртавацца ўсім удзельнікам абласнога лагера.

На наступны дзень адбылося ўрачыстае адкрыццё. І адразу дзеці павінны былі стаць сапраўднымі выратавальнікамі і прайсці этапы палявых вучэнняў.

Яны дабіраліся ў зону здарэння, знаходзілі пацярпелых і аказвалі ім першую медыцынскую дапамогу.

На другім этапе вучэнняў ратавалі рыбака, у якога перакулілася лодка. Тушэнне пажару ў лясным масіве, ліквідацыя ўцечкі небяспечнага рэчыва і пошукі пацярпелага ў задымленым памяшканні прадэманстравалі гатоўнасць дзяцей справіцца з экстрэмальнымі сітуацыямі.

У трэці дзень адбыўся конкурс строю і песні, спаборніцтвы па стральбе і валейболе. Вечарам **Агата Шкелка** разам з іскрамётнай падтанцоўкай з усіх членаў лагера дэманстравала свой хіт бясплекі.

Завяршыўся дзень, як і звычайна, дыскатэкай і святочным феерверкам. Дзеці разам са сваім трэнерам і настаўнікам Віталем Лебертам сустрэлі світанне, якое стала для іх сімвалам новых здзяйсненняў і жыццёвых адкрыццяў.

Камандзір лагера афіцыйна запрасіў нашых дзяцей прыязджаць і на наступны год.

Некаторыя з удзельнікаў лагера ўжо ўсур'ёз задумваюцца аб выбары сваёй будучай прафесіі. І магчыма, яны працягнуць добрую традыцыю выпускнікоў нашай школы і звяжуць сваё дарослае жыццё з прафесіяй выратавальніка.

**Валянціна МАЛАШЭВІЧ,**
**дырэктар палатачнага лагера “Юны выратавальнік” Даўгінаўскай СШ.**




Фота забяспечанае Валянцінай МАЛАШЭВІЧ.

Падчас спаборніцтваў.




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

Учреждение образования
«**Сморгонский государственный политехнический профессиональный лицей**»
(*г. Сморгонь, ул. Иванова, 42*) объявляет о НАБОРЕ УЧАЩИХСЯ на 2017/2018 учебный год по специальностям:
– **КАМЕНЩИК; ЭЛЕКТРОСВАРЩИК** ручной сварки – на основе общего базового образования (срок обучения 3 г.)
– **ШВЕЯ; ПАРИКМАХЕР** – на основе общего базового образования (срок обучения 3 г.)
Дополнительная информация по телефонам:
(801592) **2-18-85, 2-19-95** Сайт: **smorgonlizey.by**
УО «Сморгонский государственный политехнический профессиональный лицей» УНП 500228858

**21.07.2017 года в 14:00**
в Молодечненских ЭС проводится
## "День предпринимателя"

Программой "Дня предпринимателя" предусмотрено разъяснение вопросов подключения электроустановок юридических лиц и индивидуальных предпринимателей к электрическим сетям энергосистемы в соответствии с Указом Президента Республики Беларусь от 6.08.2014 г. №397 "О технологическом присоединении электроустановок" (по принципу "одно окно") и в порядке предусмотренном "Правилами электроснабжения".

Приглашаем всех заинтересованных посетить Молодечненские ЭС по адресу:

**Молодечно, ул. Я. Дроздовича, 27, каб. 215** (селекторный зал).

По всем вопросам обращаться:

тел. (80176) **72-64-17**

e-mail: **meskom@mail.belpak.by.**

Молодечненские электрические сети УНП 100071593

Вечерний Бобруйск
**Вашы аб'явы па продажу ТРАНСПАРТУ прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!**

**"Молодечненская районная организационная структура" РГОО "БООР"**
**15 июля 2017 г.** проводит **МЕЖРАЙОННЫЕ СОРЕВНОВАНИЯ ПО ОХОТНИЧЬЕМУ СТРЕЛКОВОМУ МНОГОБОРЬЮ**
Место проведения: ***д Белево, учебный центр МЭС***
Участники соревнований: Вилейская, Молодечненская, Воложинская РОС
Начало: 8:00. Тел. (8044) **555-95-20**, (8044) **515-29-27** УНП 691295389

# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063 (Лада), 1986 г.в., прабег 46 тыс. Т. (8-029) 9505098.*
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Пежо-5008, 2013 г.в., з Германіі. Т. (8-029) 6372633.*
- Рэно-Сцэнік, 1997 г.в., чырвоны, без опцый, 5000 рублёў. Торг. Смаргонь. Т. (8-029) 1591668.
- Веласіпед Roiser, б/у, 15 дзён, 6 хуткасцяў, колы 26 цаляў. Т. (8-029) 9127234.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Запчасткі да БМВ 525, 1997 г.в. Т. (8-044) 7387127.*
- Запчасткі да Мазды 626, 2,0Д, 1994 г.в. Т. (8-044) 7387127.*
- Запчасткі да Форда-Эскорт, 1994 г.в. Т. (8-029) 7792477.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 7077810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т.(8-029) 5677052.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў вёсцы Раёўка, аг.пл. 38,9 кв.м, цэнтральнае ацяпленне, водазабеспячэнне, сад, агарод, хлеў. Цана дагаворная. Т. (8-044) 4872318, (8-0176) 501802.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6372633.*
- 2-пакаёвая кватэра на 3 паверсе ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-033) 3209337.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н з-да "Зеніт", 3 паверх 5-павярховага дома. Свежы рамонт. Т. (8-029) 1331698, 98-029) 5559694.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5081223.*
- 3-пакаёвая кватэра ў 6-м мікраёне г. Маладзечна, 3 паверх 5-павярховага дома, 66,8/41,8/9,2. Гатовая для пражывання. Т. (8-029) 6571293.*
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6362026.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 108 кв. м. Т. (8-029) 6795426.*
- 3-пакаёвая кватэра, 4 паверх, без рамонту, у Вілейцы, вул. Талстога, 51. Тэрмінова! Т. (8-033) 6170104.*
- Гараж у ГК №1. Т. (8-029) 2505060, (8-029) 6262756.*

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя, турбин**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

- Гараж у ГК-5Р у Маладзечне, патынкаваны, пафарбаваны, аглядная яма, падвал, 1650 рублёў, торг. Т. (8-029) 1419072.*
- Дача, 49 км ад Маладзечна, в. Заазер'е, 91,5 км ад вёскі Талуць) на беразе возера, побач лес, рэчка. Цудоўнае месца для адпачынку або адкрыцця аграсядзібы. Гатоўнасць 80%. Т. (8-029) 6631960.
- Дача, кааператыў "Зялёныя ўзгоркі" ад Маладзечна, 17 км ад ст. Ласі. Т. (8-029) 3925149.
- Дом драўляны з гаспадарчымі пабудовамі (лазня, пакой для адпачынку) у маляўнічым месцы – Сольскі накірунак са Смаргоні. 90 000 рублёў. Т. (8-044) 4885293.
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, вадаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*
- Дом у в. Астраўляны Мядзельскага раёна з гаспадарчымі пабудовамі, у паўтара кіламетрах ад Вішнеўскага возера. Т. (8-029) 9579917, (8-033) 3444338.*
- Дом у в. Порса з выгодамі. Т. (8-033) 3011041.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом ў в. Шастакі, 13 км ад Смаргоні . Т. (8-029) 8724272.
- Дом у в.Порса, участак 30 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

Прадам **ДАЧУ**
паблізу Вілейкі, Плікавічы.
Участак 10 сотак.
4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.

- Дом у Вілейцы, Макаўе, з усімі выгодамі. Т. (8-033) 3209338.*
- Дом у Вілейцы, вул. Мірная, д. 15. Т. МТС (8-029) 2574576.
- Дом цагляны з усімі камунікацыямі ў Мядзеле, вул. Вяршылы, у 500 метрах ад возера. Т. (8-029) 2760904.*
- Зямельны ўчастак 0,25 га ў п.Свір. Возера ў 50 м, праз дарогу. На ўчастку электрычнасць, фундамент, магчымасць падключэння да газу. Гатовы праект. Без пасрэднікаў. Т. (8-044) 7571949.*
- Паўдома з цагляным хлявом і гаражом. Альбо абмен. Т. МТС (8-029) 7702746.
- Паўдома ў Маладзечне, уцеплены фасад, шклопакеты, ацяпленне пячное, газаправод побач. Т. (8-029) 2617499, (8-029) 9285822.
- Участак з домам у в. Насілава, 25 сотак. Т. МТС (8-029) 8143388.*

### КУПЛЮ

- Дом каля Маладзечна. Т. (8-044) 5564434, Юля.

### ЗДАМ

- Пакой у 3-пакаёвай кватэры ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*
- Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*
- Здаюцца 2 ралеты ў Ашмянах на штодзённым рынку 10 і 12 кв.м за 60 і 72 руб. ІП Улан Р. В. УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

### ІНШАЕ

- Лазня 6х4. Т. (8-029) 9453139.*



# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Шабуня С.А. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аграсядзіба**, ЛАЗНЯ.** **vslobode.by** ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ.** ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*
- Арганізацыя акажа паслугі па добраўпарадкаванні тэрыторы (тратуарная плітка, газоны, агароджы любой складанасці). Дапаможам укамплектаваць аб'ект. Цэны прымальныя. ААТ "Градінжынірынг" УНП 691882789. Т. (8-029) 6303902.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

# АККУМУЛЯТОРЫ
**для автомобилей, источников питания, сигнализаций**
## продаём новые и покупаем старые
ПРОВЕРКА АККУМУЛЯТОРОВ
С ВЫДАЧЕЙ СПРАВКИ
И ПРОТОКОЛА ИСПЫТАНИЙ

*Широкий выбор моторных, гидравлических, индустриальных масел, смазки, реагент AdBlue разливной, антифризы, техжидкости, запчасти к иномаркам*

Тел. (0176) **58-12-48,** (029) **63-63-166. www.batrix.by** ООО "Батрикс" УНП 691893243

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

# Ад шахмат не толькі разумнеюць, але і атрымліваюць дом у Англіі


Фота з групы "9 ферзяў".

Падчас сёлетняга турніру ў маладзечанскай шахматнай школе "9 ферзяў".

– Дык ці ёсць нейкая альтэрнатыва вашым шахматам?! – усклікнула узбуджаная і ўмудроная досведам бабуля на адным бацькоўскім сходзе.

– Вядома, ёсць! Наркотыкі, алкаголь, кепскія кампаніі! – дасціпна парыраваў гросмайстар...

Прывітанне, мяне завуць **Віталь Качаткоў**. Пагаворым пра шахматы!

Калі разглядаць, які від дзейнасці развівае ў дзіцяці логіку, то альтэрнатывы шахматам няма. На Захадзе больш чым 20 гадоў таму шахматы ўвялі ў праграму школы.

Лічу, што прычына палягае і ў тым, каб неяк адцягнуць дзяцей ад мноства камп'ютарных гульняў, якія ў большасці сваёй развіваюць хіба што маторыку пальцаў. У шахматаў больш магчымасцяў і пераваг. Гэта і логіка, і асновы навуковай дзейнасці, і эстэтыка, і навыкі спаборніцтва, і развіццё ўмення "спяшацца павольна".

**20 ліпеня – Міжнародны дзень шахматаў.**

Простае кліпавае мысленне ў шахматах не працуе. Таму ў сучасным гіперактыўным асяроддзі дзіця, якое прайшло мінімальную шахматную падрыхтоўку цягам 2-3 год, будзе прыкметна адрознівацца ад аднагодкаў у лепшы бок. Гэтыя "шахматныя дзеці" будуць не проста запамінаць матэрыял, а будуць здольныя:

1.) даваць ацэнку сітуацыі,

2.) аналізаваць сітуацыю – пазіцыю,

3.) накідваць і прапаноўваць магчымыя варыянты вырашэння праблемы – знаходзіць хады-кандыдаты,

4.) умець адкідаць непатрэбнае, сартаваць разумовую дзейнасць, браць на сябе адказнасць і – рабіць хады.

Толькі падтрымка цікавасці з боку бацькоў, а менавіта сумесныя заняткі, гульні, аналіз, разбор шахматных пазіцый і партый дапамогуць палюбіць шахматы.

У цывілізаваным свеце вельмі развіты шахматны турызм. Шахматы прадугледжваюць актыўны ўдзел у турнірах. Тыповыя тэрміны спаборніцтваў – 1-9 дзён. Існуе сістэма правядзення турніраў, пры якой за 5-9 шахматных партый выводзяць пераможцу з некалькіх тысяч удзельнікаў. Такая сістэма завецца швейцарскай.

### Шахматныя байкі

Ну, а колькасць каля-шахматных гісторый, на якія багатае любое падарожжа на турніры, узбагаціць і пакіне ўражанні на ўсё жыццё. З успамінаў аб падарожжах ...

На зваротным шляху на фінскай мяжы, будучы пасажырам, але гаспадаром транспарту, дазволіў сабе быць у расслабленым стане. На пытанне памежніцы: "Хто кіроўца?" – даў адказ: "Я кіроўца". Хоць там і былі камеры, але фіны не зразумелі славянскі жарт. Пры пачатку руху бралі аўто з нібыта п'яным кіроўцам з сабакамі і аўтаматамі.

Сапраўдны кіроўца, які якраз трапіў пад раздачу з пробай на допінг і іншыя працэдуры, да гэтага часу прыгадвае мне той выпадак пры сустрэчы. Яму перажытае ўрэзалася на ўсё жыццё.

### Выйграй сакавітую індычку ці кілаграм серабра

А чаго варты арышт у Амстэрдаме чатырох нашых аўтамабіляў з пяці і адпраўка іх на штрафстаянку! Быццам бы за паркоўку на веласіпеднай дарожцы, і чакаць трэба да панядзелка.

**Вечар, пятніца, усе адпачываюць. А з дзясятак беларусаў выцягваюць з лазні шэфа паліцыі, каб той дазволіў забраць машыну, хоць і з выплатай штрафу. Адрэналін зашкальваў ...**

Шведы любяць выстаўляць прызы ў турнірах не грашовыя, а рэальныя: скрыня піва, сакавітая індычка, сто грамаў золата, кілаграм серабра. Калі аўтар гэтых радкоў выйграў кілаграм каштоўнага металу, давялося ўгаворваць гаспадароў на грашовы чэк, спасылаючыся на нашы правілы па абароце з каштоўнымі металамі.

### Як за шахматы пажыў у шыкоўным доме ў Англіі

У Англіі, у Гасцінгсе, пры ацэнцы абстаноўкі з гатэлямі хутка высветліў, што за 12 дзён пражывання там з цэнамі ад 25 фунтаў за ноч хутка застануся без кругленькай сумы. Гэта было ў 1999-2000 годзе, калі ў нас зарплата было 20 фунтаў у месяц. А справа была перад Калядамі, усе агенцтвы па сэрвісе арэнды сышлі на вакацыі.

Пасля простай размовы ў мясцовай крамцы я стаў уладальнікам дома на 200 квадратаў з трыма спальнямі, двума санвузламі, шыкоўнай кухняй за... пяць фунтаў. Праўда, давялося гаспадару паабяцаць акрамя парадку яшчэ і бясплатныя заняткі па шахматах для сына-падлетка. Ключавым момантам для станоўчага рашэння ўпусціць незнаёмца ў дом сталі шахматы.

Пасля выхваляўся немцам пра тое, дзе спыніўся. Яны расказваюць: мы ў такім гатэлі, галандцы ў такім, а ты? А я... а я наняў дом. Заслона.

### Шахматны факультатыў могуць адкрыць у любой школе

Калі вы маці ці бацька школьніка, то маеце права патрабаваць ад дырэктара кожнай школы арганізаваць шахматны факультатыў. Для гэтага прадугледжаная адпаведная дзяржаўная праграма. Калі будуць пытанні ў дырэктара, няхай звяртаецца ў аддзел адукацыі. На пачатковым этапе засваення шахмат школьнага факультатыву, які будзе весці кіраўнік фізвыхавання, будзе цалкам дастаткова.

А калі кіраўнік гуртка ўзброіцца кніжкай-шахмацішкай "Мат у адзін ход" і разам з дзецьмі асвоіць яе за адзін год, то цаны гэтаму шахматнаму трэнеру не будзе. Для больш мэтанакіраваных у Маладзечне існуе секцыя, якой кіруе **Віктар Акотчык**. У сацыяльных сетках можна знайсці яго групу "9 ферзяў" – там і кантакты, і расклад заняткаў, і іншая карысная інфармацыя.

А цяпер яшчэ некалькі задач і іх разбор з кніжкі "Мат у адзін ход".

### Дыяграма №133



Чорны кароль акружаны і белымі пешкамі, і "спёрты" сваімі фігурамі. Адзінае поле для адступлення ў яго ёсць толькі па дыяганалі – C5. Але па дыяганалі можа "прабіць" белы слон!

Рашэнне – 1. Cd2-e3X

Большасць дыяграм у кніжцы "Мат у адзін ход" мае двайное рашэнне. Калі ход белых – даюць мат белыя, калі ход чорных – даюць мат чорныя. Пашукаем мат за чорных. Белы кароль не ў камфортных умовах. Яго акружылі чорныя фігуры, але мат дае... пешка! Тут усё вырашае правіла ператварэння. У дадзенай задачы пешка ператвараецца сваім ходам у ферзя і дае мат. Рашэнне: 1 .... F2-f1ФX.

Знак "X" азначае мат.

Усім добрых выхадных, і трэніруйце свае мазгі шахматнай дзейнасцю. Нават мазгам патрэбны пастаянны тонус.

Кожную нядзелю ў Маладзечне ў шахматным клубе на Забэйды-Суміцкага, 2 у 12:00 ужо больш чым 20 гадоў праходзяць бліц-турніры па шахматах. Удзельнікам адводзіцца час па пяць хвілін на партыю. Удзел бясплатны. Запрашаем.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

● МЕРКАВАННЕ

# Мы пражылі жыццё не так, як нам абяцалі. Чытаючы Нобелеўскага лаўрэата

## Для чаго дзяўчаты складалі спіс, хто калі пераспіць з пажылым інвалідам

**Пятнаццаты год гэтага стагоддзя адзначыўся тым, што афіцыйныя СМІ амаль нічога не пісалі пра пісьменніцу Святлану Алексіевіч, а неафіцыйныя яе ўхвалялі, асабліва апошнюю працу "Час Sekond Hand" і хадайнічалі аб узнагароджанні яе Нобелеўскай прэміяй.**




Фота lifetut.com.

**Нават у шакуючай кнізе Святланы Алексіевіч "У вайны не жаночы твар", на думку аўтара, змешчана далёка не ўсё, што жанчыны маглі расказаць пра вайну.**

### У вайны не жаночы твар

Каб мець сваё меркаванне пра яе творчасць, я прачытаў чатыры кніжкі. Пачаў знаёмства з аповесці "У вайны не жаночы твар". Пісьменніца зрабіла вельмі цяжкую, але такую патрэбную ў той час працу. У гэтым творы рэальнае жыццё, рэальная барацьба за выжыванне, а не выдумкі ў аповесцях і раманах пра вайну, якія пісалі, кіруючыся "сацыялістычным рэалізмам".

Часам, чытаючы гэтыя споведзі жанчын, наварочваліся слёзы, таму што я помню вайну. Помню і немцаў, і партызан, і паліцаяў, і вызваліцеляў. У мяне свой погляд на тую вайну. Гора было многа, і гераізму жанчын таксама. Вось толькі як раздзяліць патрыятызм і фанатызм таго часу?

**Калі жанчына пакідае маленькае дзіця і бяжыць добраахвотніцай ваяваць – гэта патрыятызм ці фанатызм?**

Ці вынік абалваньвання моладзі? Чаму нават сёння саромеюцца сказаць праўду? Для чаго трэба было выкарыстоўваць жанчын танкістамі, шафёрамі, машыністамі, сапёрамі, санітарамі на полі бою? Па розных падліках іх ваявала ад 800 да 980 тысяч. Што, не хапала мужчын? Іх жа гналі ў бой часта без вінтовак, як на забой. Немцы для гэтай мэты жанчын не выкарыстоўвалі!

Маршал Жукаў нават у самым канцы вайны даваў каманду ўсім падначаленым: "Ваньков не жалеть! Бабы нарожают новых!"

У арміі ваяваў мізэрны працэнт добраахвотніц-жанчын. Асноўная частка была мабілізавана не толькі ў армію, а і на працоўны фронт, дзе таксама былі невыносныя ўмовы працы і жыцця.

Як расказаў мне першы дырэктар завода "Электрамодуль" **Міхаіл Кобліцкі**, у адным з гарадоў у інтэрнаце жылі дзяўчаты, мабілізаваныя для работы на заводзе. Яны жылі, як у турме. Камендантам інтэрната быў пажылы інвалід вайны, з адной нагой. У яго ляжаў спіс, з кім з дзяўчат ён павінны пераспаць. Справа ў тым, што адзіны спосаб вырвацца адсюль дамоў – гэта зацяжарыць. Многія з дзяўчат запісваліся да яго ў чаргу.

А колькі тысяч жанчын вывозілі на абаронныя работы, пакідаючы маленькіх дзяцей на волю лёсу. Нашу маці ўжо пасля вайны, у 1945 годзе, зімой пагналі на нарыхтоўку лесу, і мы, дзеці, засталіся адны. Нам было 10, 8 і 4 гады.

### Як за месяц у палон трапілі тры мільёны?

Мне хацелася прачытаць у кніжцы праўду, усеабдымную трагедыю вайны, у тым ліку трагедыю жанчын: і гераізм, і фанатызм, і абалваньванне людзей, і злачынныя адносіны ўлады да людзей, бо ўсё гэта было, але пісалі і гаварылі толькі пра гераізм. Ну, як растлумачыць, што за месяц у палоне ў немцаў аказаліся тры мільёны нашых ваенных.

Маршал Жукаў у 1941 годзе да вайны быў начальнікам Генштаба і намеснікам наркама абароны СССР. Да гэтага ў 1938-1939 гадах камандаваў Беларускай, а ў 1940 годзе – Кіеўскай ваеннай акругай. Павінны быў добра ведаць сітуацыю і прымаць неабходныя меры для адпору ворагу. Або як растлумачыць загад Сталіна "Ні кроку назад!". А дзе дзеўся савецкі патрыятызм? Чаму трэба было фарміраваць у жніўні 1942 года штрафныя роты, батальёны, загараджальныя атрады, якія расстрэльвалі сваіх?

Многія з гераінь кнігі скажуць, што пасля вайны яны не хацелі прызнавацца, што былі ў арміі, толькі не тлумачаць – чаму. Відаць, справа ў тым, што многія генералы і афіцэры не маглі абысціся без ППЖ (паходна-палявой жонкі), як іх называлі, і кіраўніцтва СССР ішло ім насустрач, пасылаючы дзяўчат на вайну.

Многія, хто пабываў на вайне, псіхічна пакалечаныя людзі, а тыя, хто спрабаваў выратаваць псіхіку гарэлкай, сталі алкаголікамі.

Чытаючы "У вайны не жаночы твар", я адчуваў, што не ўсё надрукавана, што ўспаміналі ўдзельнікі вайны, а некаторыя, натрэніраваўшыся выступаць перад моладдзю пасля вайны, гаварылі толькі пра гераічнае.

Ды і Святлана Алексіевіч не ўсё магла надрукаваць у той час. Вялікі дзякуй ёй і за тое, што яна зрабіла. Бо без аб'ектыўнай ацэнкі мінулага жыцця нельга правільна спрагназаваць будучыню. Таму прыклад – развал СССР.

### Цынкавыя хлопчыкі

Кніжку "Цынкавыя хлопчыкі" было цяжка чытаць. Вечарам не чытаў, бо мог сніць кашмары.

Удзельнікі вайны ў Афганістане – зусім іншае пакаленне. Нават тыя, хто з ахвотай пайшоў на вайну, хутка прачухаліся. Амаль усе пасля разумелі, дзеля чаго яны рызыкавалі сваім жыццём на гэтай чужой зямлі. Каб быў даступны ўсім статыстычны аналіз, хто там загінуў, усе пераканаліся б, што дзяцей чыноўнікаў там адзінкі, яны сваіх дзяцей туды не пасылалі.

У гэтай кніжцы добра бачная пазіцыя аўтара. Чатыры старыя, нават без рашэння Палітбюро ЦК КПСС, уцягнулі краіну ў такую вайну! Але гісторыя ў Расіі нікога не вучыць: ні народ, ні кіраўнікоў. Расія ваявала з Украінай, тысячы абяздоленых, загінулых. Ці возьмецца Святлана Алексіевіч напісаць кнігу пра гэту вайну?

### Не давайце чалавеку нечалавечых выпрабаванняў

Але вернемся ў Афганістан... Чытаю:

"Цяпер ужо не сакрэт, што штогод там ваявала 100-тысячная савецкая армія. За 10 гадоў – адзін мільён. Забіта і ранена 50 тысяч. Можна верыць і не верыць лічбам, таму што ўсім вядома, як мы ўмеем лічыць.

Праз афганскую вайну прайшло 620 тысяч салдат і афіцэраў, з іх 28 832 беларусы, 330 маладзечанцаў. 771 беларус не вярнуўся з Афганістана, у тым ліку 10 нашых маладзечанцаў.

"Яшчэ ў старажытнасці казалі: не будзі сабаку, які спіць. Не давайце чалавеку нечалавечых выпрабаванняў. Ён іх не вытрывае". Я ведаў афіцэраў-афганцаў, якія вярнуліся з вайны псіхічна хворымі. "Там мы былі аднолькавыя, але не былі аднадумцамі... Так і жывём усё жыццё – белыя і чырвоныя, хто не з намі, той супраць нас".

**Леў ЧЫРВОНЦАЎ,**
**Маладзечна.**
**Працяг будзе.**



Архіў "РГ".

**Леў Чырвонцаў**

Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Мінску. Працаваць пайшоў у 15 год у Вілейцы. Там жа скончыў вячэрнюю школу пасля арміі, у 1960 годзе. Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі закончыў у 1968 годзе, Мінскую вышэйшую партыйную школу ў 1971-м.

49 год працаваў у Вілейцы і Маладзечне слесарам, токарам, майстрам, інструктарам ГК КПБ, дырэктарам КБА, на розных пасадах на Маладзечанскім заводзе "Электрамодуль", старшынёй гарадскога камітэта народнага кантролю.

Мае трох дачок і чацвярых унукаў. Жыве ў Маладзечне.

● КАЛЯНДАР

**14 ЛІПЕНЯ**

**1905 год.** Нарадзіўся **Пятро Сакол** (сапр. Пётр Аляксандравіч Масальскі, іншы псеўданім Пятрусь, мястэчка Пасінь, цяпер Латвія), паэт, перакладчык. Яго асабісты архіў захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў Мінску. Удзельнік Латгальскага рабочага прафсаюза і партыі незалежных сацыялістаў, член культурна-асветнага таварыства "Бацькаўшчына" і "Таварыства беларускіх вучыцялёў" у Латвіі.
У 1928 за ўдзел у левым радыкальным руху пазбаўлены права выкладання, жыў пад наглядам паліцыі. У час нацысцкай акупацыі ў 1942-44 – карэктар-перакладчык часопіса "Новы шлях". Складаў картатэку беларуска-латышскага слоўніка. Арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1945. У 1945-47 праходзіў "фільтрацыю" ў Хабараўскім краі, у Ніжнеамурскім папраўча-працоўным лагеры МУС СССР. Вярнуўся ў Рыгу ў сакавіку 1947. Працаваў рабочым. Памёр 6 ліпеня 1985 года.

**15 ЛІПЕНЯ**

**1678 год.** Нарадзіўся **Анастас Керсніцкі** (Гальшаны, цяпер Ашмянскі раён), каталіцкі тэолаг, правазнаўца, педагог, пісьменнік. Памёр у 1733 годзе.

**17 ЛІПЕНЯ**

**75 гадоў** з пачатку Сталінградскай бітвы (1942).
**100 гадоў** з дня нараджэння **Сяргея Баткоўскага** (1917 – 1995), беларускага архітэктара, заслужанага архітэктара Беларусі.
Ад 1978 загадчык кафедры інтэр'ера і абсталявання Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.
Асноўныя працы: будынак паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа (1956), карпусы гадзіннікавага завода (1954-63, у суаўтарстве), павільён ВДНГ БССР (1968), рэканструкцыя стадыёна "Дынама" (1980, усё ў Мінску ў суаўтарстве). Быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй БССР (1968) за ўдзел у стварэнні архітэктурнага ансамбля Ленінскага праспекта ў Мінску.

**19 ЛІПЕНЯ**

**90 гадоў** з дня нараджэння (1927) **Міхася Саўкі**, беларускага і бельгійскага мастака-рэстаўратара, мастацтвазнаўца, археолага.
**1855 год.** Памёр **Тамаш Зан**, удзельнік вызваленчага руху, філамат, прыродазнавец, літаратар.

**20 ЛІПЕНЯ**

**Міжнародны дзень шахмат**
**1617 год.** Заснаваны Базыльянскі закон – уніяцкі царкоўны ордэн.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Маладзечанка, якая атрымала дыпло
# “Паступіць ва ўніверсітэт тут прасц

**Кінуць медыцынскі ўніверсітэт пасля трэцяга курса бюджэту і з’ехаць у Германію – рашэнне, якое маладзечанцы Марыне Загарэнцы далося няпроста. Яно перавярнула ўсё жыццё дагары нагамі, а наперадзе чакалі гады напружанай вучобы і аддаленасць ад блізкіх. Цяпер, у 28 год, Марына мае нямецкі дыплом стаматолага, піша доктарскую дысертацыю, здае на правы кіроўцы. Пра свой шлях яна распавяла “РГ”.**

### Пераконвала ўсіх, што робіць правільна, хаця сама не была ўпэўненая

Марына заўсёды хацела займацца медыцынай. Выбрала стаматалогію, таму што лічыла гэту галіну цікавай і перспектыўнай.

Дзяўчына вучылася ў 5-й школе ў Маладзечне, але там не было профільных класаў. Таму вырашыла перайсці ў гімназію №7, якая вядомая добрай базай для паступлення ў медыцынскі ўніверсітэт. Астатняе давялося дапрацоўваць з рэпетытарам.

– Асабліва я ўдзячная **Наталлі Данілаўне Пашчук**, – прыгадвае жанчына. – Гэта настаўнік ад Бога! Памятаю дагэтуль, што, калі перайшла ў 10 клас, яна мне сказала: “Марына, святло ў канцы тунэля ўсё ж такі ёсць”. І з таго моманту я рухалася ў накірунку святла.

Калі Марына вучылася на другім курсе, яе знаёмая паехала па праграме ў сям’ю ў Германію, даглядала дзяцей. Сям’я аплачвала праязныя, страхоўкі, курсы нямецкай мовы, дзяўчыне не трэба было ні пра што клапаціцца. Паразмаўляўшы з ёй, Марына таксама загарэлася ідэяй пераезду. Вырашыла: цяпер ці ніколі, лепш рызыкнуць, чым пасля шкадаваць, што не паспрабавала.

Яна сама знайшла сям’ю, у якую магла паехаць, яны даслалі ўсе неабходныя дакументы для візы. Праз некалькі месяцаў маладзечанка была ў Гамбургу, усё аказалася нават прасцей, чым яна думала.

– Скажу шчыра, было страшна і не проста рашыцца на такі крок. Да гэтага я ніколі не была за мяжой, нават у Польшчы ці Прыбалтыцы, а тут адразу Германія. Я не ведала, ці атрымаецца тое, што задумала. Сумненні былі вялізныя: я кінула БДМУ пасля трох курсаў, дзе вучылася на бюджэце, і ўсё трэба было пачынаць з нуля. Далёка не ўсе падтрымалі мяне, давялося многіх упэўніваць, што маё рашэнне правільнае. У той момант, як у мяне самой не было ўпэўненасці, што яно слушнае на самой справе.

З вакзала Марыну забрала яе нямецкая сям’я. Пасля сняданка павезлі запісваць на моўныя курсы.

– Вакол усё па-нямецку... – прыгадвае маладзечанка першыя ўражанні. – Калі да гэтага ў мяне былі толькі чаканні, то ў той момант я зразумела, што вось яна, рэальнасць.

На курсах дзяўчына пазнаёмілася з такімі ж дзяўчатамі, як сама. Яны разам бавілі час, але ўсё роўна было цяжка. Па першым часе жаданне вярнуцца ўзнікала кожны дзень.

– Роля родных і блізкіх была проста каласальная! Без іх падтрымкі ў мяне нічога не атрымалася б. Бацькі заўсёды перажывалі за мяне, верылі, за што я ім вельмі ўдзячная. Без іх у мяне не было б дыплома на “выдатна”!

### Паступіць прасцей, чым у Беларусі

– Я спрабавала знайсці праграму, па якой бы магла паехаць вучыцца, таму што так прасцей і, як мінімум, па першым часе выплачваецца годная стыпендыя. На жаль, для студэнтаў-медыкаў ніякіх прапаноў не было. Таму я спачатку паехала на год у сям’ю. За гэты час падцягнула мову. У мяне было вельмі шмат свабоднага часу, выхадныя цалкам незанятыя. Па буднях, паводле дамовы, я праводзіла з дзецьмі 4-5 гадзін. Астатні час магла займацца сваімі справамі, у тым ліку вучыць нямецкую. Усе расходы пакрывала сям’я, плюс плацілі 260 еўра ў месяц.

Марына здала экзамен па мове, які неабходны для паступлення ў ВНУ, даведалася пра ўмовы паступлення, неабходныя дакументы. Для паступлення спатрэбілася перакласці і завераць атэстат, акадэмічную даведку з БДМУ, прыкласці медстрахоўку і вынік экзамену па нямецкай мове, а таксама аплаціць унёсак за апрацоўку дакументаў. Больш нічога для паступлення не спатрэбілася, ніякіх уступных экзаменаў не было.

**Затым проста чакаеш адказ, ці прымаюць цябе. Гэта вельмі зручна, студэнтам не даводзіцца бегаць з універсітэта ва ўніверсітэт, перакідваючы дакументы, як у Беларусі.**



Фота забяспечанае Марынай ЗАГАРЭНКАЙ.

Марына Загарэнка.

Маладзечанка паступіла ў многія ВНУ, але з выбарам вызначылася яшчэ да падачы дакументаў, у іншыя падавала іх для падстрахоўкі. Дзяўчына вельмі хацела вучыцца ў Гісэне – невялікім студэнцкім гарадку, дзе пры насельніцтве 75 тысяч 28 тысяч – студэнты. Для медыцынскіх факультэтаў існуе спіс ВНУ у залежнасці ад рэйтынгу, Гісэн займае адну з першых пазіцый. Марыне важней быў не горад, а якасць навучання. Яна, да прыкладу, паступіла і ў Гамбург, але рэйтынг медфакультэта ў ім ніжэйшы.

Пасля залічэння дзяўчына атрымала від на жыхарства для вучобы ў Германіі. Для гэтага неабходна было атрымаць паручэнне грамадзяніна Германіі ці мець на рахунку прыстойную суму грошай, каб даказаць, што можаш сябе забяспечыць. За маладзечанку паручыліся.

Ва ўніверсітэт, дзе вучылася Марына, на стамфак набіралі толькі двух студэнтаў-замежнікаў. Пра тое, што прайшла, дзяўчына даведалася толькі на залічэнні.

– У мяне склалася ўражанне, што паступіць у Беларусі нашмат складаней, таму што акрамя атэстата здаюцца тэсты, а вось вучыцца лягчэй, – мяркуе яна. – Тут жа наадварот, для паступлення патрэбны толькі атэстат, затое вучоба больш напружаная. На маім факультэце многія адсеяліся на пачатку вучобы: некаторыя сыходзілі самі, іншых адлічвалі. У БДМУ адсейвалі хіба што замежнікаў, калі яны нічога не рабілі для вучобы.

### Ніякай “вады”, як у БДМУ

Параўноўваючы нямецкую і беларускую медыцынскую адукацыю, жанчына адзначае, што ў БДМУ было вельмі шмат “вады”, заняткі часта проста адседжваліся і шмат часу ішло на рэчы, якія наўпрост не звязаныя з будучай спецыяльнасцю.

У той жа час ў нямецкай ВНУ больш часу адводзілася на прадметы, якія на самой справе важныя. Таксама больш даводзілася “рабіць рукамі”, развіваючы практычныя навыкі.

У БДМУ на стамфаку вучоба доўжыцца 5 год, пасля паўгода экзамен. У Германіі вучоба падзелена: тры гады на бакалаўра, два – на магістра. Першыя 2,5 года ў Марыны былі “даклінічныя” семестры. Яны ўключалі такія прадметы, як анатомія ці біяхімія. У плане стаматалогіі ў гэты перыяд прадметы былі накіраваныя на развіццё практычных навыкаў і былі падобныя да адукацыі зубнога тэхніка.

Пасля былі першыя дзяржаўныя экзамены па ўсіх пройдзеных прадметах. Калі здаеш іх – дапускаешся да далейшай вучобы. Астатнія 2,5 года была “клініка”. Цэлы дзень праводзілі прыём пацыентаў пад наглядам выкладчыкаў. У гэты перыяд былі і лекцыі, але большы ўпор надавалі практыцы.

У БДМУ, прыгадвае Марына, яна мела па 10, а то і болей прадметаў за семестр. Многія з іх непасрэднага дачынення да медыцыны не мелі – ідэалогія, правы чалавека, гісторыя, культуралогія, філасофія, фізкультура і іншыя.

– Я не спрачаюся, што чалавек павінны быць усебакова адукаваны, але нельга, каб гэта ішло на шкоду асноўнай спецыяльнасці, – мяркуе жанчына. – На гэтыя дадатковыя прадметы мы трацілі шмат часу. А тут, у Германіі, у мяне былі два-тры прадметы ў семестр, і гэта асноўныя стаматалагічныя прадметы. Напрыклад, арта-

# м стаматолага ў Германіі: ей, чым у Беларусі”

дантыя, парадanталогія. У дадатак былі два-тры агульнамедыцынскія прадметы, якія не былі звязаныя са стаматалогіяй, але былі важныя для медыцынскай адукацыі. Напрыклад, ларынгаатарыналог, агульная хірургія, унутраныя хваробы. Па гэтых прадметах чыталі лекцыі, прычым наведванне не было абавязковым.

Для ахвотных атрымаць усебаковую адукацыю ніякіх перашкод не было. ВНУ не падзялялі на медыцынскую, гуманітарную ці тэхнічную. Універсітэт адзін, але з рознымі факультэтамі. У бібліятэцы можна было браць любую літаратуру, а пры жаданні наведваць лекцыі іншых факультэтаў. На стамфаку такой магчымасці не было, а вось у іншых студэнт мог сам складаць расклад занятках на семестр, выбраць колькасць прадметаў, якія збіраецца наведваць, вызначаць нагрузку самастойна.

Гады вучобы ў Германіі былі не для “корачкі”, а далі шмат досведу. Вучоба праходзіла з выкарыстаннем навейшага абсталявання для лячэння і дыягностыкі. Падчас вучобы можна было наведваць курсы павышэння кваліфікацыі. Не было нічога лішняга, на што проста змарнавалі б час. За кошт гэтага выпускнік не абмяжоўваецца адной галіной, як у нас. У Беларусі ёсць раздзяленне на тэрапеўтаў, артапедаў і гэтак далей. Марына ж, пачаўшы працаваць, можа рабіць усё, выдаленне гэта ці пратэзаванне.

### Не здаў экзамен – пяць год кату пад хвост

Вучоба была вельмі напружанай, цэлы дзень студэнтка праводзіла ў клініцы. У канцы кожнага семестра былі практычныя і тэарэтычныя экзамены. У выпадку няздачы трэба было паўтараць увесь семестр. Ацэньвалі надзвычай строга, паблажак не было ні для каго. Здаралася, што экзамен “заваліла” палова студэнтаў, і ўсе яны мусілі паўтараць семестр. На дзяржэкзаменах таксама ўсё было вельмі строга. Бывала, што і там студэнты не здавалі, і атрымоўвалася, што ўсе пяць год кату пад хвост.

Цягам семестра неабходна было выканаць за пэўны час выніканую колькасць практычных работ. Часу часта не хапала, таму стрэс суправаджаў кожны дзень.

Затое канікулы ў нямецкім універсітэце – вельмі прыемны момант. Вучоба пачынаецца ў сярэдзіне кастрычніка. Зімовы семестр доўжыцца ад сярэдзіны кастрычніка да сярэдзіны лютага. Затым два месяцы канікулы. Летні семестр доўжыцца ад сярэдзіны красавіка да сярэдзіны ліпеня. Затым тры месяцы канікулы. Нямецкім студэнтам шчасціць на большую колькасць святочных дзён, а калядныя канікулы займаюць мінімум два тыдні.

На іншых факультэтах на канікулах трэба было здаваць экзамены, пісаць рэфераты. На факультэце, дзе вучылася маладзечанка, усе экзамены здавалі цягам семестра, і канікулы былі цалкам свабодныя, як маральная кампенсацыя за напружаную вучобу.

Для падрыхтоўкі да экзаменаў студэнты не мелі спіса пытанняў, як гэта прынята ў беларускіх ВНУ. Прапаноўвалася арыентавацца на матэрыял лекцый. Але калі патрапіш на экзамен да выкладчыка, які лекцыі па гэтым прадмеце не чытаў, то спытацца могуць што заўгодна.

> **Экзамен нагадвае сумоўе, на ім правяраюць, як студэнт валодае прадметам. Таму і цяжка спрагназаваць, як яго здасі.**

У Беларусі можаш разлічваць, што калі вывучыў білеты, экзамен пройдзе паспяхова, у Германіі ж зусім па-іншаму. Можа быць, што студэнт аддаў на падрыхтоўку шмат часу, а выкладчык спытаецца тое, чаго ён не ведае. Але ў гэтым ёсць і перавага. Студэнт не абмяжоўваецца спісам пытанняў, а знаёміцца з прадметам у поўным аб’ёме.

– Памятаю, у БДМУ нам выдавалі кнігі, як у школе, – прыгадвае Марына. – Ва ўсіх літаратура была аднолькавая. А тут жа толькі даюць рэкамендацыі. Напрыклад, па прадмеце рэкамендуюць пяць падручнікаў, а ты сам вырашаеш, які абраць. Для мяне гэта было плюсам, таму што ёсць кнігі, якія складана напісаны, і рыхтавацца па іх больш цяжка. Некаторым падабаецца рыхтавацца па падручніках, дзе ўсё сціснута, а іншым – дзе падрабязна расписана. А ў Беларусі часта выдавалі яшчэ савецкія падручнікі, у якіх матэрыял быў пададзены вельмі складана.

### Хацелася вярнуцца дадому кожны дзень

Былі моманты, калі хацелася вярнуцца дадому. Спачатку кожны дзень, але з цягам часу іх станавілася ўсё менеш. Самы складаны перыяд напаткаў у сярэдзіне вучобы перад першымі дзяржаўнымі экзаменамі. Марына нават ўзяла акадэмадпачынак на паўгода, каб крыху адпачыць і лепш да іх падрыхтавацца.

У Мінску маладзечанцы заставалася давучыцца два гады, пасля якіх год інтэрнатуры і два гады адпрацоўкі па размеркаванні. У суме – пяць год. Калі б дзяўчына паступала ў нямецкую ВНУ, ёй бы яшчэ спатрэбілася закончыць падрыхтоўчае аддзяленне, якое займае не менш за год. Так як Марына вучылася ў БДМУ, у яе не было патрэбы ў падрыхтоўцы, і так яна “зэканоміла” год ці два. У Германіі вучоба заняла шэсць год, да таго ж дзяўчына не займала час падрыхтоўкай. А размеркавання і інтэрнатуры тут няма, пасля выпуску можна ўладкоўвацца, куды хочаш.

### Што трэба, каб дасягнуць мэты

– Я не хацела б, каб маё інтэрв’ю разглядалі як рэкламу для вучобы і працы за мяжой, – падсумавала размову Марына Загарэнка. – Ва ўсім ёсць свае плюсы і мінусы.

> **Дзе б вы ні былі, для дасягнення вялікіх мэтаў трэба прыкласці гару намаганняў. Гэта толькі збоку ўсё можа падавацца працай, чым ёсць на самой справе. З неба нічога не падае, і свой лёс чалавек стварае сам. Трэба толькі пакінуць зону свайго камфорту, каб адбыліся чаканыя змяненні.**

## За канікулы зарабляла на вучобу

Стыпендыі прадугледжаныя не былі, да таго ж два разы на год трэба было плаціць унёсак 280 еўра. У гэтым розніцы паміж мясцовымі і замежнікамі не было – унёсак плацілі ўсе. Толькі палова гэтых грошай ідзе на патрэбы ўніверсітэта. Другая – на аплату праязнога. Па гэтым білеце можна ездзіць па ўсёй федэральнай зямлі на ўсіх відах транспарту паўгода. Калі перанесці гэта на Беларусь, то мінскі студэнт мог бы паўгода ездзіць на ўсім транспарце Мінскай вобласці. Праязныя ў Германіі дарагія, і такі студэнцкі за 150 еўра – проста падарунак.

Адлегласць ад горада, дзе вучылася Марына, да Франкфурта-на-Майне такая ж, як ад Мінска да Маладзечна. Час у дарозе займаў 40 хвілін, праезд абыходзіўся б у 30 еўра. Атрымліваецца, за цану студэнцкага праязнога можна было б толькі пяць разоў з’ездзіць у Франкфурт па звычайным білеце. Па праязным жа ездзіш неабмежавана ў любыя гарады зямлі, і ў саміх гарадах нічога даплачваць не трэба.

> **Пяць месяцаў канікулаў дазвалялі добра падзарабіць, гэтай магчымасцю карысталіся многія студэнты.**

Марына падпрацоўвала афіцыянткай. Сярэдні заробак – 10 еўра за гадзіну, таму за канікулы магчыма назапасіць на вучобу, таксама дапамагалі бацькі. Стыпендыі ж можна было атрымаць толькі ад арганізацый ці палітычных партый. Ва ўніверсітэце нашай гераіні як выключэнне была прадугледжаная стыпендыя для замежных студэнтаў для другой паловы вучобы. Для гэтага трэба было падаваць дакументы і ўдзельнічаць у конкурсе. Марыне пашчасціла, і яна атрымала стыпендыю, таму другую палову вучобы менш падпрацоўвала і больш канцэнтравалася на вучобе.

Кожны месяц дзяўчыне трэба было плаціць 90 еўра за медстрахоўку, за 250 еўра аплаціць інтэрнат. Два разы на год выплачвала ўнёсак універсітэту 280 еўра, а раз на два гады – пасведчанне на права жыхарства за 80 еўра. Прадукты і адзенне абыходзіліся крыху танней, чым у Беларусі. Гэта ўсе расходы, якія былі неабходныя. Параўноўваючы з беларускім студэнтам-медыкам, які вучыцца на платным і наймае жыллё ў Мінску, то сумы не моцна адрозніваюцца.

У адрозненне ад іншых спецыяльнасцяў, медыкам трэба было часам купляць некаторыя матэрыялы самастойна. А вось нямецкі інтэрнат – гэта проста мара для студэнта з Беларусі. У пакоі жыве адзін чалавек. У Марыны быў свой ванны пакой, кухня, балкон і падвал. Гэта як невялікая кватэра, толькі танней, чым калі такую ж кватэру наймаць.

– Нямецкіх сяброў у мяне шмат, але больш я падтрымліваю сувязь з нашымі, хто таксама сюды пераехаў. Цягам вучобы складана было знайсці шмат свабоднага часу, паралельна я шмат працавала, але атрымлівалася займацца спортам. У Германіі гэта для многіх, асабліва для моладзі, нешта абавязковае. Я выходзіла на прабежкі, наведвала басейн. Зімы, як у нас, тут няма, таму амаль круглы год ездзіла на ровары.

## Колькі працуе і зарабляе стаматолаг у Германіі

Немцы больш адказна ставяцца да свайго здароўя, і гэта тычыцца не толькі догляду за зубамі. У Германіі страхавая медыцына. Штомесяц плацяць пэўную суму, якая дазваляе пры неабходнасці звярнуцца да доктара, які праўдзе ўсё неабходнае абследаванне і лячэнне. Па страхоўцы можна прыйсці раз на год на агляд, дзеці да 18 год могуць прыйсці двойчы на год. Многія гэтай магчымасцю карыстаюцца.

Што тычыцца абсталявання, то ў Германіі ўсё самае новае, спецыялісты на яго не шкадуюць грошай, таму што гэтыя ўкладанні нясуць выгаду. Лячэнне больш якаснае, хуткае і камфортнае як для доктара, так і для пацыента.

Дзяржаўных паліклінік у Германіі няма, акрамя клінік пры ўніверсітэце, дзе навучаюцца студэнты. Кожны працуе на сябе ці ў прыватным кабінеце на некага. Даход залежыць ад доктарскага прафесіяналізму і ўмення весці бізнес. Таму гаспадар кабінета можа зарабляць як мільён еўра на год, так і 200-300 тысяч. Дактары, якія працуюць у нечым кабінеце, зарабляюць менш.

Стамкабінеты не працуюць так доўга, як у Беларусі. Нармальны рэжым працы – два дні на тыдзень да 16, два дні да 13 і мінімум адзін дзень, калі працуюць да 18-19 гадзін. Вялікія клінікі ці кабінеты, дзе скааперавалася некалькі дактароў, працуюць даўжэй, але для кабінета з адным доктарам такі час прыёму цалкам нармальны. На выхадных усё зачынена, пры скаргах звяртаюцца ў бальніцы.

## За што падабаецца Германія

– У Германіі вялізныя магчымасці для развіцця кар’еры, – адзначае Марына. – Умовы і аплата працы, сацыяльныя гарантыі на высокім узроўні. У Германіі ёсць што паглядзець, вельмі шмат выдатных месцаў, прыгожыя ландшафты. З Германіі нашмат прасцей падарожнічаць па Еўропе. Некалькі гадзін – і ты ў Амстэрдаме ці Брусэлі. Па аўтабанах можна хутка дабрацца ў любы пункт, таму на выхадных зручна з’ездзіць у Францыю ці Швейцарыю. Жывучы тут, я стала больш любіць сябе і прыслухоўвацца да сваіх жаданняў. Немцы сапраўды больш любяць сябе, чым беларусы. Больш часу аддаюць сабе, сочаць за здароўем, займаюцца спортам, знаходзяць час для хобі. Выхадны ў іх – на самой справе выхадны. І калі ім штосьці не падыходзіць, яны без сарамлівасці адмовяцца ці перанясуць тваю просьбу на больш зручны для іх час.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.

# Майстэрства не для слабых на нерв
# як з тушы жывёлы стварыць прыга

МАЛАДЗЕЧНА

**У доме Уладзіміра Чарыкава сапраўднае лясное царства: на ўваходзе сустракае галава лася, стол у гасцінай упрыгожвае янотападобны сабака, на сцяне – бабёр, які нібыта збіраецца сігануць у раку. Ён стварыў столькі кампазіцый, што даўно збіўся з ліку. Але каб з тушы зрабіць такую прыгажосць, давядзецца падрыхтаваць яе, стоячы ледзь не па локці ў крыві.**



Пры ўваходзе ў дом Уладзіміра Чарыкава сустракае зробленае ім пудзіла галавы лася.

Захапленне Уладзіміра – таксідэрмія, ці выраб пудзіла з тушы жывёл або птушак. Для такой справы майстру давядзіцца праявіць сябе як кава тры ў адным – і як скульптар, і як мастак, і як хірург.

Цяпер ён працуе ляснічым у Маладзечанскім лягсасе, раней выконваў абавязкі егера, а ў гэтым месяцы збіраецца выйсці на пенсію. Пра тое, чаму паляўнічыя для жывёл прыносяць больш карысці, чым "зялёныя", і як адлюстраваць харaство прыроды, распавядае ён для чытачоў "РГ".

**– Ці можна навучыцца таксідэрміі па кніжках?**

– Упершыню зрабіць пудзіла я паспрабаваў у 1986-87 годзе. Спачатку пачытаў літаратуру з бібліятэкі. Але па-сапраўднаму навучыць можа іншы таксідэрміст. Год пяць таму папрацаваў у таксідэрмічнай студыі ў Мінскім краязнаўчым музеі. Экспанаты рабілі з настаўнікам **Анатолем Харунжым**. Ён дапамагаў абсталёўваць музей і ў Маладзечне, але без мяне. Ад яго навучыўся галоўным тонкасцям, як выконваць працу прафесійна.

Раней таксідэрмісты карысталіся фармалінам, але ён таксічны і шкодны для арганізма, таму яны доўга не жылі. Добра сябе ў гэтай галіне паказваюць спецыялісты з ЗША, Канады, Германіі. Яны і распрацавалі спецыяльны раствор, пасля апрацоўкі якім на пудзіла не лезуць ні моль, ні іншыя кузуркі, і рэч доўга захоўваецца.

**Галоўнае, адпуджваць насякомых, таму што менавіта ад іх пудзілы разваљваюцца.**

Нават калі ў шкуры застаецца лічынка, яна шкодзіць. Гатовыя работы трэба чысціць ад пылу і не кранаць рукамі. На іх застаецца тлушч, які пры дотыку псуе шкуру.

Калі шкура апрацаваная нармальным хімікатам, то гарантыя на яе – 80 год.

**– Напэўна, вашы працы – найлепшы падарунак для знаёмых?**

– Так, нядаўна дарыў кампазіцыю качара з качкай. Пудзілы толькі ў музеі звычайна бачыш, а каб у цябе дома стаяла – гэта зусім нязвычна. У сябе дома ўжо праблематычна знайсці пад іх месца.

Сярод маіх прац – лісы, ваўкі, казулі, янотападобныя сабакі, галава лася, кабана, вавёрачка, куніца. Розныя птушкі – шпак, вальдшнэп, сава, сойка. Усіх і не ўспомніш.

Шкура ў жывёл таўсцейшая, а скура птушкі, як газета. Для майго настаўніка прасцей працаваць з птушкамі, хаця там трэба ўкладваць пер'е, неабходна працаваць вельмі акуратна. Я ж больш люблю працаваць са шкурай.

А вось кампазіцыя з янотападобным сабакам. Убачыў, нехта машынай збіў. Не прападаць жа, думаю, дай зраблю што-небудзь. Але звычайна працую з упаляванымі жывёламі.

**– А памятаеце сваё першае паляванне?**

– Я сам з Сібіры, з Омска. Дзядзька Вася быў заядлым рыбаком і паляўнічым, і мяне да гэта прывучыў. Упершыню на паляванне хадзілі, калі ў класе пятым вучыўся – я, дзядзька і яго сын, мой стрыечны брат. Пераважна палявалі на качак. Напачатку мазаў, часам трапляў, а радасці ж было!

У Беларусь мяне перацягнула жонка, **Тацяна**. Яна ў Омску працавала па размеркаванні, я якраз са службы прыйшоў, так і пазнаёміліся. Сын, **Анатоль**, мае паляўнічы білет, цяпер у Піцеры жыве. Дачка, **Каця**, жыве ў Мінску, зараз у госці прыехалі. Мае ўнукі, **Радзівону** 5, а **Глебу** 13, заўсёды пытаюцца: "Дзед, калі на паляванне возьмеш?"







**– А калі вы пачалі, як на ваша захапленне адрэагавалі родныя?**

– Спачатку стараўся рабіць па начах, каб сямейныя не бачылі. Са шкурай жа вазіцца – стаіш па локці ў крыві. У першую ноч шкуру здымаў, даводзіў да ладу, а пасля, наступнай ноччу, рабіў пудзіла. Вынік паказаў нараніцу. Першай была галава кабана. Жонка была ў захапленні!

**– Ці ёсць любімыя жывёлы, якія найлепш атрымліваюцца?**

– Кожная жывёліна і птушка прыгожая, але трэба абраць позу, прыдумаць кампазіцыю, каб гэта выглядала прыгожа. Дапамагае тое, што вучыўся ў мастацкай школе. Гляджу ў часопісах карцінкі, фота жывёл, каб запомніць, якія кадры злавілі ўдала. На паляванні таксама запамінаеш позы жывёл, а пасля прыгадваеш гэтыя карцінкі, каб скласці цікавую кампазіцыю. Калі янота паставіць на чатыры лапы, гэта будзе так сабе, а ўкласці ў позу, аздобіць – атрымаецца прыгажосць.

Настаўнік вучыў, што, пачынаючы працаваць з пудзілам, нельга думаць, якім яно атрымаецца, таму што тады не атрымаецца. І сапраўды, вынік не той. Бо намаляваў сабе карцінку, а напрыканцы крыху не так, і адчуваеш расчараванне. Таму я ў працэсе прыкідваю толькі ў агульным плане, якая поза, пасля дэталі дадаюцца па ходзе справы. Для кампазіцый выкарыстоўваю мох, карчажыны, галінкі, галінкі штучных елак. Іх трэба пратравіць, карчажыны можна пакрыць лакам.

Для работы спачатку трэба ачысціць тушу. Шмат часу ідзе на манекен – аснову для жывёліны. Гэта як скульптура,

# ы:
# жосць









У руках – "манекен" для пудзіла.



на якую нацягваюць шкуру, а пасля яе зашываюць. Я раблю манекен з будаўнічай пены, а з тоўстага дроту дадаю арматуру, каб усё трымалася.

Па часе займае пазнаму. Лася рабіў некалькі месяцаў, рана прачынаўся, нават жонка скардзілася, што спаць не даю. Птушкай калі займацца – размарозіў за ноч, зняў скуру, і калі цэлы дзень займацца толькі ёй, то пад вечар можна закончыць работу.

**– Якое мяса з упаляваных жывёл самае смачнае?**

– У добрай гаспадыні ўсё смачнае. Я нейкі час займаўся бабрамі, то Таццяна спярша іх не ела. Мой цесць таксама займаўся бабрамі, здаваў толькі шкуру і струмень, а мяса скормліваў сабакам, вось і яна не ела. Я пачаў рабіць тушонку – спадабалася, пасля сама рабіла і шашлыкі, і гуляш. Гэта ж дыетычнае, нават лекавае мяса.

Рабіў шашлык з бабра, даў сябру пакаштаваць, ён кажа, што падобна на нешта паміж свінінай і цяляцінай. У меру мяккае, крыху тлушчу.

Не спажываюць драпежнікаў, астатніх усіх можна. Хаця мой сябра казаў, што з выразкі ваўкоў каштаваў абалдзенную страву, але ў гэтым я сумняваюся, сам не еў.

Спрабаваў есці і змяю. З намі ў Пскове служыў хлопец з Азербайджана. У той мясцовасці было шмат змей, салдаты рабілі з іх раменьчыкі для гадзіннікаў, а мяса выкідвалі. Ён для нас неяк па-свойму прыгатаваў, праўда, смачна, нешта падобнае да курыцы.

На радзіме ў мяне ёсць сябра, спадчынны мядзведнік, вось ён частаваў мядзведзінай. Своеасаблівая на смак, аддае ягадамі, хвояй.

**– Ці здараліся складаныя паляванні?**

– Часам даводзіцца і за падранкам пабегаць, і ў загонках пахадзіць. Хаця кожнае паляванне асаблівае, бываюць нюансы, але і азарт, і падзеі падобныя. Зімой падабаецца пахадзіць па лесе з сабакам. Цяпер мой напарнік Іртыш, ужо чацверты сабака.

**Я бяру толькі лаек: яны як людзі, размаўляць толькі не ўмеюць.**

Палюю з калектывам, сваімі хлопцамі, збіраемся ад 5 да 10 чалавек. На качынах бывае і начуем, пры кастры што ж яшчэ рабіць, расказваем байкі. Столькі ўсяго расказана і праслухана!

**– Ці сустракаліся з тымі, каго абурала ваша захапленне?**

– Калі працаваў дальнабойшчыкам, з намі працавала дыспетчар з партыі Зялёных, вось былі ў нас спрэчкі. Пакуль аднойчы пры ўсіх я ёй не сказаў: "А чым вы, партыя, дапамаглі прыродзе? З плакатамі пабегалі? Ты хоць аднойчы выносіла ў лес жменьку зярнят, пасыпала ў лесе? Венік прыносіла, каб у глыбокі снег заяц не памёр ад голаду?" Пасля гэтага яна больш не чаплялася.

Паляўнічыя ж не толькі палююць, яны падкормліваюць жывёл, нарыхтоўваюць сена, вяжуць венікі, каб падтрымаць звера зімой. Летам будуюць падкормачныя пляцоўкі, засейваюць палі для вырошчвання падкорму – ячмень, траву. А тое, што іх страляюць, – дык неабходна рэгуляваць колькасць жывёл. Калі гэтага не рабіць, пачнуцца хваробы.

**– Як з дзікамі, адстрэл якіх заахвочвалі пасля эпідэміі свіной чумы?**

– І цяпер іх адстрэльваюць, хаця я з гэтым не згодны. Як мне падаецца, дзіка проста зрабілі крайнім. А ён тут пры чым?

Адстрэльваюць таксама селекцыйных жывёл, па якіх адразу відаць, што хворыя, найперш самцоў, – яны няправільна развіваюцца, кульгаюць. Каб такі самец не прынёс патомства з такімі ж хібамі, трэба забіраць з прыроды. Пакідаць неабходна здаровых жывёл, каб быў здаровы прыплод.

**– Скажыце як ляснік, тое, што ў гарадах раней было шмат гракоў, а цяпер вяртаюцца галубы, гэта добры знак?**

– Ні галубы, ні вароны ў гарадах у такой колькасці быць не павінны. Чаму яны ў горадзе? Таму што тут даступная ежа. Яны корпаюцца ў сметніцах, пасля разносяць усё. Не месца ім у гарадах. Ад гэтага адно выйсце – каб сметніцы зачыняліся і птушкі не маглі ў іх есці.

Я аднойчы захацеў зрабіць пудзіла сарокі. Жонка ўсё дзівілася – ну, што там у той сарокі, для чаго? А калі я пер'е вымыў, вычысціў, зрабіў пудзіла, то яна ўбачыла, што такое чыстая сарока – гэта ж замілаванне! Грудка бялюткая, а цела чорнае усіх адценняў – пераліваецца, нібы вясёлка.

**Дык звычайную тушу так мыць не трэба, як птушак. На пер'і столькі бруду, што толькі сродкам для посуду чысціцца.**

**– Ці бывалі жывёлы, за якімі асабліва клапатліва даглядалі?**

– Калі працаваў егерам, у майго напарніка зайшоў на хутар самец казулі паранены. Завёз да ветэрынара, казулі паставілі ўколы, Ігар яго дадому прывёз. Думаў, паправіцца, але на раніцу адышоў у іншы свет.

**– Ці бывала, што шкада звера?**

– Калі на паляванне выйшаў, страляеш па жывёліне і тут раптам стала шкада – то ты падранка зробіш, гэта яшчэ горш. Жывёліна мучыцца будзе. Страляць трэба трапна.

**– Ці палявалі на рэдкіх жывёл?**

– Рэдкія ў Чырвонай кнізе, іх страляць няможна. Мядзведзяў у Маладзечанскім раёне няма. Хаця кажуць, што пад Смаргонню ўжо бачылі.

Мой сябра-мядзведнік запрашаў на паляванне на мядзведзя ў Сібіры. Я адмаўляюся: бегаць хутка не ўмею. Гэта ў яго і бацька, і дзед мядзведнікі, то ён толькі з двума лайкамі на мядзведзя ходзіць, ведае звычкі звера.

Звычкам звяроў, слядам мяне спачатку вучыў дзядзька. Цяпер, каб атрымаць паляўнічы білет, здаюць экзамены і па біялогіі, і па медыцыне, і на веданне слядоў, па зброі і тэхніцы бяспекі – пытанняў больш, чым раней.

**– Здараецца, што некалькі паляўнічых палююць на аднаго звера?**

– Бывае. Забірае звера той, хто зрабіў спыняючы выстрал. Паляўнічая этыка такая. Калі на мяне бяжыць заяц, а гоніць яго сабака іншага, я ж не ведаю, што гэта за ён. Я таго зайца стрэліў. Але ж сабака адпрацаваў – таму, паводле этыкі, я аддаю зайца яму, а ён мне вяртае патрон.

**– У колькі абыдзецца пакупка пудзіла?**

– Калі заказваць у таксідэрмічнай студыі, напрыклад, галаву лася, тушу даць сваю, то толькі за работу заплаціш каля 400 долараў.

Таксідэрмісты выстаўляюць свае працы на міжнародных выставах – цікава паглядзець ідэі. Асабліва зачапіла кампазіцыя, якую аўтар, як мінімум, рабіў гады тры. Калі ў Афрыцы засуха, і жывёлы шукаюць ваду, бывае, антылопы пераплываюць раку. Гэтага моманту чакаюць кракадзілы, для іх гэта проста баль. У той кампазіцыі дзве антылопы пераскокваюць, адну з іх кракадзіл, вынырнуўшы, схапіў за нагу, другая над ёй ляціць на сушу. Мяне ўразіла, што там нібы сапраўдныя пырскі вады.

**– Якую жывёлу марыце зафіксаваць? Можа, ільва?**

– Я ў гэтым месяцы збіраюся на пенсію. Вось як выйду – паеду ў Сібір. У нас рысь чырванакніжніца, а там яе ўпаляваць можна. Гэта мая мара – зрабіць сабе рысь у поўны рост. Ехаць трэба зімой, каб шкура была выспеўшая. Можа, на галіну пакладу, нібы яна адпачывае.

**– Ці ёсць у вас вучні?**

– Дачка прасіла навучыць. Даў простую птушку. Яна скальпелем чыркнула – не, гэта не маё, кажа. Не кожны зможа. Ёсць вучань **Лёшка**, малады паляўнічы з Маладзечна. Вось ён усё робіць, просіць парады.

**Фота аўтара.**

Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by



**Даведка "РГ". Таксідэрмія** – выраб пудзіла жывёл, у якім прадметам працы з'яўляецца шкура жывёліны. Яе нацягваюць на аснову, а поласць унутры запаўняюць напаўняльнікам. Сучасныя таксідэрмісты выкарыстоўваюць "манекены" – унутраную аснову з пенаполіурэтану, захоўваючы прапорцыі цела і аб'ёмы машцаў. Выкарыстоўваюць для стварэння музейных экспанатаў ці для захавання паляўнічых трафеяў.

НАВІНЫ

## Матчы хакейнай каманды "Дынама-Маладзечна" будуць бясплатныя

МАЛАДЗЕЧНА

У жніўні пройдзе кубак Рэспублікі Беларусь па хакеі. Першы выязны матч "Дынама-Маладзечна" адбудзецца 14 жніўня.

Пачнецца ён спаборніцтвам з салігорскай камандай "Шахцёр". Другі матч, які пройдзе 14 жніўня, таксама выязны. Маладзечанцы пазмагаюцца з наваполацкім "Хімікам".

Традыцыйна "Дынама-Маладзечна" дорыць падарунак аматарам хакея – дамашнія матчы будуць бясплатныя. У Маладзечне каманда сыграе з хакейным клубам "Брэст", камандай з Сербіі "Црвена Зорка" і маладзевай зборнай Беларусі U-20.

Скончыцца кубак Рэспублікі Беларусь 25 жніўня. У гэты дзень "Зубры" згуляюць з мінскім "Юнацтвам".

Падтрымаць любімую каманду ў Кубку **Руслана Салея** можа кожны ахвотны.

**Паводле hcdinamo.by.**

## "Смаргонь" саступіла ў кубкавым матчы

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб "Смаргонь" у матчы 1/16 Кубка Беларусі прымаў 7 ліпеня брэсцкае "Дынама". Смаргонцы саступілі 1:4. Тры галы прапусцілі на пачатку матча. У "Смаргоні" гол у адказ у другім тайме забіў **Віталь Ганіч**.

– Маглі забіваць значна больш, бо мелі мноства добрых момантаў, – цытуе галоўнага трэнера брэсцкага "Дынама" **Уладзіміра Жураўля** афіцыйны сайт клуба.

– Наколькі гэта буйная перамога дапаможа ў падрыхтоўцы да Лігі Еўропы?

– Я не разглядаю перамогу з пункту гледжання забітых мячоў. Па вялікім рахунку, мы зрабілі тое, што і павінны былі. Пры ўсёй павазе да "Смаргоні", клас камандаў некалькі розны.

## "Чысць" прымала грандаў

МАЛАДЗЕЧНА

"Чысць" у матчы 1/16 Кубка Беларусі 9 ліпеня прымала мінскае "Дынама". Гульня прайшла ў Чысці пры аншлагу. Мінчане забілі ў кожным тайме па два галы і выйгралі 4:0. Адметны матч быў яшчэ тым, што бліжэй да канца гульні, на 75-й хвіліне, пад апладысменты гледачоў на поле выйшаў 56-гадовы **Мікалай Мятліцкі** – самы ўзроставы дзеючы футбаліст краіны.

– Сказаць, што можна змагацца на роўных з камандай, якая гуляе ў еўракубках і акрамя футбола нічым не займаецца, з майго боку было б дзіўна, – прыводзіць словы галоўнага трэнера "Чысці" **Дзяніса Мятліцкага** by.tribuna.com. – Калі б мы прайшлі "Дынама", гэта, напэўна, было б нелагічна. Усё ж такі мы збіраемся некалькі разоў на тыдзень, а "Дынама" трэніруецца штодня. Такога быць не можа ў прынцыпе. Мы гэта і не ставілі. Нам трэба будзе правесці важныя матчы чэмпіянату з "Клецкам", "Жыткавічамі" і "Маладзечнам". Ад гэтых гульняў будзе вельмі многае залежаць у турнірнай расстаноўцы. А ў паядынку з "Дынама" мы хацелі проста добра і годна згуляць перад сваімі гледачамі.

## "Ашмяны" штампуюць буйныя перамогі

АШМЯНЫ

"Ашмяны" працягнулі звышгалявую серыю. Пасля перамогі 12:0 над "ФК СДЮШАР №8" з Гомеля, ашмянцы 8 ліпеня дома прымалі яшчэ адну гомельскую каманду – "Тэрыторыя футбола". На гэты раз у "Ашмянаў" перамога з лікам 9:0.

"Ашмяны" падняліся ў турнірнай табліцы на сёмае месца. Каманда – лідар па колькасці забітых мячоў ў чэмпіянаце – 41.

## У Мядзеле пройдзе "Водны забег"

МЯДЗЕЛ

– У такім забегу вы яшчэ не ўдзельнічалі, – пераконвае Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі. – Мы прабяжым пару кіламетраў прама ў вадзе. Запрашаем праверыць свае сілы ў чарговым спартыўным спаборніцтве.

Рэспубліканскія лёгкаатлетычныя спаборніцтвы "Водны забег" пройдуць у Мядзеле на возеры Мястра 29 ліпеня ў 12 гадзін. Удзельнікі ў залежнасці ад узросту і полу будуць бегчы 100 метраў, адзін і два кіламетры. Бегчы неабходна будзе ў абутку на глыбіні 40-60 сантыметраў.

Заяўкі на ўдзел прымаюць да 25 ліпеня.

**Аддзел інфармацыі.**

Шахматы з Віталем Качатковым чытайце на 8-й старонцы.

# "Крумкачы" разбілі "Маладзечна-ДЮСШ-4" з лікам 0:3


Фота Зоя ХРУЦКАЯ.

Фанаты сталі лепшымі, што 8 ліпеня паказаў маладзечанскі футбол.

**Хаця маладзечанскія футбалісты і выказвалі ўпэўненасць перад гульнёй у 1/16 Кубка Беларусі, на галах гэта не адбілася.**

На гульні 8 ліпеня госці не дазволілі гаспадарам дамінаваць у матчы. Уваход на гульню быў свабодны, і глядацкія трыбуны запоўніліся больш чым на палову.

Першы тайм закончыўся з лікам 0:2, галы забілі на 19 і 27 хвілінах. Прычым першы гол забіў выхаванец маладзечанскага футбола **Сяргей Корсак**, які зялёна-белую форму замяніў на чорную.

Гаспадары не змаглі забіць гол прэстыжу. Трэці гол сапернікі забілі на 85 хвіліне, і гледачы пачалі масава пакідаць стадыён.

Галоўным відовішчам гульні ад маладзечанцаў быў фанацкі сектар – як заўсёды, яркі і натхняльны.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Каментар гледача

Глядач **Сяргей Уладыка** падзяліўся сваімі ўражаннямі пра матч:

"Уражанні былі выключна станоўчыя да стартавага свістка і хвілін дзесяць пасля яго. Прыстойная колькасць балельшчыкаў, прыемныя бела-зялёныя сцягі, баявы лік на табло – усё гэта цешыла вока. Не засмучалі і дзевяць маладзечанскіх хлопцаў, практычна з кожным з якіх даводзілася пабегаць: альбо на школьных стадыёнах, альбо ў залах для мініфутбола.

Хлопцы нядрэнна пачалі матч, не падавалі надзей саапернікам, прыкметна перасягалі іх па габарытах, padоўгу кантралявалі мяч і атакавалі пазіцыйна.

Але пасля дзясятай хвіліны ўсе сапсавалася. Спачатку пачалі пажарыць цэнтральныя абаронцы, потым варатар, а яшчэ праз некалькі хвілін ахаладзелі да актыўнага заўзятарства мясцовыя прыхільнікі футбола, у выніку прапушчаны ад Корсака гол. І ты Брут?! Ну, або: "Серы, ты каму забіў?" – як слушна спытаў адзін з суседзяў-суперажывальнікаў.

Пасля гэтага градус матча безнадзейна ўпаў. Тыя бела-зялёныя, хто да гола не паспеў згубіцца на полі, дазгубіліся. І нават лузганне семак вакол стала нейкім асуджальна-манатонным.

Талькоўскі ўвесь першы тайм ці то паказваў, чаму яго не ўзялі ў "Іслач", ці то даводзіў, што адзін у полі не воін. **Дзмітры (Дзол) Касцюк**, актыўна перабіраючы сваімі вельмі кароткімі ножкамі, тлумачыў прычыну таго, чаму да трыццаці гадоў так ні разу і не выйшаў на прафесійным узроўні. Астатнія таксама ставілі і паспяхова выконвалі крыху менш значныя задачы.

Галоўны трэнер **Дараховіч** быў эфектны ў сваім беласнежным пола, але не такі яркі ў праяве трэнерскай думкі. Яму і яго штабу трэба яшчэ прыстойна працаваць над сабой, каб у каманды з'явілася надзейнасць у абароне і, як вынік, перспектывы выканання агучанай задачы на павышэнне ў класе. Першая ліга вабіць сваімі агнямі, хай нават пагаворваюць аб збеглым фундатары і туманнай фінансавай будучыні.

Фінальны свісток зляўі за гэтымі думкамі і прымусіў апладысментамі падзякаваць хлопцам, якія падышлі да трыбуны з першым падзячным словам у адрасе заўзятараў. Яны малайцы ўжо ў гэтым – у павазе да людзей, якія любяць іх не за вынік і не за ўменне гуляць у футбол.

Умення няма, але гэта не бяда. Не ўсё ж зямля маладзечанская дае плады на пясчаных землях "Макоўскіх". Трэба ўзгадаць і некалькі "бесталантасцяў", але якія будуць самааддана любіць футбол і ніколі яму не здрадзяць, як дазваляюць сабе часам пацалаваныя богам у ляжку таленты.

## Вынеслі прысуд быламу трэнеру "Смаргоні" Мікалаю Рындзюку, якога вінавацілі ў хабары

СМАРГОНЬ

**У Мінску завяршыўся суд па справе экс-футбаліста зборнай Беларусі і былога галоўнага трэнера "Смаргоні" Мікалая Рындзюка.**

Спецыялісту пагражала да пяці гадоў пазбаўлення волі. Ён атрымаў пакаранне ў выглядзе двух гадоў папраўчых работ з утрыманнем 25% заробатнай платы на карысць дзяржавы.

"Справа Рындзюка" атрымала ход 30 студзеня па слядах іншага гучнага працэсу ў беларускім футболе – справы былога кіраўніка суддзейства і інспектавання БФФ **Андрэя Жукава**, які ў студзені быў асуджаны на 5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Рындзюку інкрымінавалася дача хабару (ч. 1 арт. 431 КК РБ). Паводле матэрыялаў справы ў дачыненні да Жукава, калі ён быў галоўным трэнерам "Смаргоні".

Рындзюк перадаў Жукаву 100 еўра, каб той прызначыў "правільнага" суддзю на леташні матч з "Оршай" у першай лізе. У той жа дзень былога арбітра затрымалі, а Рындзюк праходзіў па справе ў якасці аднаго са сведкаў. Аднак, у адпаведнасці ад астатніх, судовага пераследу не пазбег, бо супрацоўнічаць пачаў не па добрай волі, а пасля затрымання.

Суд не ўгледзеў у дзеяннях Рындзюка карыслівых матываў, а таму не стаў звяртацца да пазбаўлення волі. Абвінавачаны не стаў абскарджваць прысуд, і ён ужо ўступіў у законную сілу.

Завяршэнне разгляду па справе ў дачыненні да Рындзюка дае магчымасць БФФ разгледзець яго ў сценах Дома футбола, але ўжо асабліва па футбольных законах.

**Паводле football.by.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

Па гарызанталі:

2. Шырокая, глыбокая лапата, прызначаная, галоўным чынам, для перасыпання сыпучых рэчываў.
6. Садоўнік Жозэф Манье разводзіў кветкі ў доўгіх бетонных скрынях. Яны ўвесь час ламаліся. Тады мужчыны зрабіў нешта, што дазволіла яму атрымаць патэнт. Што гэта за вынаходніцтва?
7. Сумесная дзейнасць, супрацоўніцтва.
8. Тонкая, кароткая лінія, рыска.
9. Горная асадкавая парода розных колераў, якая складаецца з дробных зерняў кварцу і халцэдону.
10. “Дай, Божа, старому …, а маладому – розум”.
14. Прозвішча творцы, што зрабіў скульптуру “Маці з дзецьмі”, якую адкрылі ў Вілейцы.
16. Спецыяліст у галіне юрыспрудэнцыі; практычны дзеяч у галіне права.
19. Паломнік, вандроўны багамолец.
20. Малады спартсмен, дасягненні якога ацэньваюцца па асобаму ўзроставаму разраду.
22. Майстар па шыцці і рамонце абутку.
24. Пад якой назвай мы ведаем “ваду з Кёльна”?
25. Права кіравання дзяржавай.
26. Вадкая частка крыві.
27. Здабыча рыбы.
28. Аб’ядноўваць, згуртоўваць.
29. Папрокі, абвінавачанні.
32. Тое, што сапраўды існуе або існавала; рэальнасць, рэчаіснасць.
33. Выраб з тканіны або шарсцяных нітак для захутвання шыі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

Па вертыкалі:

1. Тое, што перагароджвае шлях, перапыняе, затрымлівае рух.
3. Аленевы мох.
4. Грашовая адзінка і разменная манета некаторых дзяржаў Лацінскай Амерыкі і Філіпін.
5. Міміка твару, губ, вачэй, якая паказвае схільнасць да смеху або выражае радасць, задаволенасць.
7. Папярочныя ніткі, якія пераплятаюцца з асновай і ўтвараюць тканіну.
8. Усходні фруктовы прахаладжальны напітак.
11. Псіхічны стан чалавека, ахопленага вялікім гневам, узбуджэннем; шаленства, раз’юшанасць.
12. Ніл Гілевіч: “… аспрэчыць немагчыма”.
13. Вёска ў Валожынскім раёне, у якой нарадзіўся беларускі геолаг Уладзімір Багіна.
15. Той, чыя круглая дата святкуецца.
17. Гусіны тлушч.
18. Прымяненне, выкарыстанне ў штодзённым жыцці.
21. Сістэма падземных збудаванняў, дзе здабываюцца падземныя выкапні.
23. Самая папулярная шахматная тактыка.
24. Горад, у якім 2 ліпеня прайшло спаборніцтва па сілавым экстрыме.
25. Галіна медыцыны, якая вывучае хваробы мочапалавых органаў.
26. Пасажырская платформа.
30. У Лондане працаваў рэстаран, які рэкламаваў сябе, абяцаючы, што ў іх стравах кліенты не знойдуць ніводнага валаска. Якая адметнасць была ва ўсяго абслуговага персаналу рэстарана?
31. Воін прывілеяванай рэгулярнай пяхоты ў султанскай Турцыі.
32. Вымаўленне ненаціскнога галоснага “е” як “а” пасля мяккіх зычных у першым складзе перад націскам.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №27

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Ордэн. 2. Матэматыка. 6. Літаваць. 7. Асабіст. 13. Талія. 15. Аксаміт. 17. Абноскі. 18. Шарпей. 19. Галактыка. 22. Ізабара. 24. Ліхач. 25. Рым. 26. Манах. 27. Эдысан. 29. Табун. 30. Гелій. 36. Лязо. 37. Дудка. 39. Локан.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 3. Інжэню. 4. Танцы. 5. Абойма. 8. Адукацыя. 9. Паштальён. 10. Дзяцел. 11. Золата. 12. Бісектрыса. 14. Цільда. 16. Кушляны. 20. Пясок. 21. Імпэт. 22. Іена. 23. Дэфіцыт. 26. Майстэрня. 28. Ленін. 31. Агляд. 32. Аблога. 33. Шыпшына. 34. Байкал. 35. Онікс. 38. Зялёны. 40. Дранік.

## Фестываль падарожжаў “Самаход” прыязджае ў Вілейку

Даведацца аб тым, як выглядае візавая сітуацыя паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам, паслухаць аб прыгодах беларускіх падарожнікаў, а таксама патанцаваць пад выступленне **Андруся Такінданга** – усё гэта можна будзе зрабіць у суботу, 15 ліпеня, у Вілейцы, вуліца Партызанская, 45-а, а 14 гадзіне.

– Мы спадзяёмся сабраць пад адным дахам усіх, каму цікавыя падарожжы, – кажа **Васіль Бялько**, каардынатар кампаніі “У Беларусь і Еўропу – без візы!”. Кампанія ўжо больш за пяць гадоў ладзіць мерапрыемствы, што прыцягваюць увагу беларусаў да праблемы віз. – А таксама чакаем тых, хто хоча больш даведацца аб візах і тым, што кожны з нас можа зрабіць для іх адмены.

У праграме – размовы аб падарожжах па Балканах і аб тым, як сумясціць паездкі з валанцёрскай дзейнасцю. Да таго ж арганізатары абяцаюць разыграць прыдатныя для падарожнікаў прызы.

Уваход вольны.

**Аддзел інфармацыі.**

## ГАРАСКОП 14-20 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Пастарайцеся рабіць як мага больш добрых спраў. Бо калі ў перыяд свайго поспеху і шчасця вы нікога не забылі і не пакрыўдзілі, то шчасця вам прыбавіцца яшчэ больш. Прысвяціце гэтыя дні аналізу самога сябе ці адносін з каханым чалавекам.



**ЦЯЛЕЦ.** Гэтыя дні прадракаюць вам эмацыйнае задавальненне і шчасце ў сямейным жыцці. І ўсё ж эмоцыі трэба трымаць пад кантролем, але і не заганяць іх надта далёка. А яшчэ палепшыцца ваша фінансавае становішча.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам выпадуць выпрабаванні розгната роду. Але пастарайцеся не рабіць ніякіх неабдуманых і непрыстойных учынкаў. А яшчэ вы не раз пераканаецеся, што вакол вас сапраўды верныя сябры, якія гатовыя вам дапамагчы.



**РАК.** Фінансавае становішча дасягне стабільнасці, гэта той стан, калі вашы расходы роўныя вашым даходам. Такую раўнавагу лёгка парушыць, калі не мець меры ў патрэбнасцях, але пры мудрым падыходзе ў ёй можна знаходзіцца доўга і жыць у радасці.



**ЛЕЎ.** Каб не адбываліся ў арганізме збоі, якія праяўляюцца ў выглядзе бяссонніцы, нервовых цікаў, прастудных захворванняў, паніжэння ці павышэння ціску, не каплівайце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.



**ДЗЕВА.** Вы траціце грошы хутчэй, чым яны паступаюць. Надта вялікія расходы могуць стаць прычынай сямейных рознагалоссяў. Трымайцеся як мага далей ад плеткароў, не давайце пустых абяцанняў. У дзелавой сферы адбываюцца перамены, якія лягуць у аснову будучых поспехаў. Час падыходзіць для рамонту і абнаўлення гардэроба.



**ШАЛІ.** Падзеі, якія бударажылі вашу душу, засталіся ў мінулым. Для вас наступае перыяд спакойнага сузірання, калі вашы эмоцыі знаходзяцца ў раўнавазе, няма радасці і гора, няма патрэбнасці ў тым, каб нешта мяняць. Перыяд спакою добры для роздумаў. А таксама садзейнічае больш яснаму рашэнню рабочых пытанняў.



**СКАРПІЁН.** Настаў час увасобіць свае ідэі ў рэальнасць і развіць ці прымяніць свае тэхнічныя навыкі. Вашы дзеянні будуць мець спрыяльныя вынікі. Вас чакаюць сур’ёзныя перамены, уплываць на якія вы не зможаце па ўласнай волі. А можа, так яно і лепш.



**СТРАЛЕЦ.** Нейкія дзверы прыйдзецца адчыняць сілай, затое іншыя самі адчыняцца перад вамі. Усю сваю сілу накіруйце на станоўчыя змяненні ў сваёй душы. Уласнае жыццё павінна стаць як засакрэчаная лабараторыя, паколькі могуць з’явіцца людзі, якія змогуць парушыць любоўную ідылію словам ці справай.



**КАЗЯРОГ.** Вам неабходна адмовіцца ад спажывання алкаголю. Нават у мінімальных дозах ён будзе дзейнічаць на ваш арганізм разбуральна. Могуць пацярпець печань, ныркі, сэрца, сасуды. Вы занадта рашучыя, патрабавальныя і катэгарычныя, а гэта для вас перашкода на шляху дасягнення поспеху.



**ВАДАЛЕЙ.** Гэтыя дні – час завяршэння работы і іншых спраў, якія вы робіце, таму што абавязаныя. Вядома, важней за ўсё – работа. Але і пра маральныя даўгі не забывайце. Напрыклад, гэта апошні тыдзень, калі вы дапамагаеце хворай знаёмай ці выгульваеце сабаку сябра, які паехаў у адпачынак. Калі вам нехта сеў на карак, а вы лічыце сваім доўгам дапамагаць яму, то папярэдзьце гэтага чалавека, што з наступнага тыдня дапамога закончыцца.



**РЫБЫ.** Вы ўбачыце, якія плады прынясе нядаўняе свята, вечарынка, на якой вы пабывалі. Ва ўласным жыцці стане зразумела, што выйдзе з нядаўняга знаёмства.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 9 | | 3 | 2 | | 8 | |
| 6 | | | | | | | 2 | |
| | | 8 | 6 | | 1 | 7 | | |
| | | | | 6 | 8 | | 9 | |
| | 9 | | 2 | | 4 | | 1 | |
| | 4 | | 3 | 1 | | | | |
| | | 3 | 4 | | 7 | 1 | | |
| | 8 | | | | | | | 5 |
| | 6 | | 1 | 8 | | 2 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 15 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 +17 | | +11 +18 | | +13 +18 | | +12 +19 | |
| | 739 | ↘ 6 | 741 | ← 3 | 743 | ↓ 2 | 743 | ↗ 4 |
| Вільня | +11 +19 | | +11 +18 | | +11 +18 | | +14 +20 | |
| | 746 | ↘ 4 | 748 | ↙ 2 | 750 | ↘ 2 | 748 | ↗ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.59
Захад 21.38
Даўжыня дня 16.39

Усход 0.00
Захад 11.56
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +9,3 °C у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +32,7 °C у 2001 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,5 мм у 2010 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Яна абагравала, карміла, гадавала, лячыла. У праекце "Простыя рэчы" Наталля Дуровіч з вёскі Будзішча распавядзе пра рускую печ.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Мама, а гэта праўда, што ты вельмі цікавішся гісторыяй Беларусі?
– Не кажы лухты Альгерд. Бяры Вітаўта, пойдзем забіраць Ягайлу з дзіцячага садка.

***

– Мадам, ідзём да вас ці да мяне?
– А чаму вы думаеце, што я пагаджуся?
– А што тут думаць? Вам за трыццаць і вы на выставе дызельных рухавікоў.

***

Ішоў другі месяц лета. Думка пра чалавечае ахвярапрынашэнне дзеля добрага надвор'я ўжо не падавалася дзікунствам.

***

– Люся, ты захварэла?
– Не, я проста не нафарбавалася.

***

Гэтым летам мне было горача толькі аднойчы. Калі я доўга шукаў у шафе цёплы світар.

***

Турыст пытаецца ў мясцовага жыхара:
– А як мне хутчэй падняцца на тую гару?
– Хочаце я сабаку адвяжу?

***

Цяжка быць дурнем. Канкурэнтаў шмат.

***

– Тата, мяне мама сёння два разы пабіла.
– За што?
– Першы раз за тое, што я паказаў ёй дзённік з двойкамі. А другі – калі яна даведалася, што гэта яе стары дзённік.

***

Да траўматолага прыходзіць жанчына з забінтаванай рукой і нагой.
– Што здарылася?
– Уключыла пыласос, а ён мяне ў руку токам стукнуў.
– А з нагой што?
– Дык і я яго стукнула.

***

Раней з жонкай спрачаліся, хто ў сям'і галоўны. З'явілася дзіця, даведаліся. Цяпер і спім, і ядзім, калі цар дазволіць.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў КРАСНЫМ

## У што вы ўкладаеце грошы?



**Анатоль Гудзель, машыніст-кампрэсаршчык:**
– Усё ідзе ў магазін! Зарплата маленькая, што атрымліваю, тое ідзе на прадукты, адзежу. У банк не кладу, усё трымаем пры сабе.



**Анастасія Пыльская, настаўнік-дэфектолаг:**
– На апошнюю зарплату купіла веласіпед. Буду займацца спортам, тым больш што цяпер лета!



**Сяргей Трус, аграном:**
– Я ўсё аддаю сям'і. У мяне ўнукі вучацца, дапамагаю ім. Сад свой вялікі, трэба закупляць растворы, угнаенне. А грошы не люблю і не шкадую іх ніколі.



**Кацярына Францкевіч, дзяжурная ў гасцініцы ў Мінску:**
– Нікуды не ўкладаем! Трымаем дома, купляем тое, што танней, эканомім. Цяпер лета, увогуле добра: вітаміны са свайго агарода.



**Арцём Францкевіч, студэнт:**
– Кладу ў тумбачку! Студэнту нялёгка прыходзіцца з грашыма. Я стараюся не марнаваць грошы, збіраю на штосьці карыснае. Цяпер, напрыклад, на новы тэлефон.



**Філіп Роліч, менеджар па продажы:**
– Пераважна фінансы ідуць на адпачынак, падарункі. Планую ўкласці грошы ў свой бізнес.



**Галіна Сімвалокава, педагог:**
– Нядаўна купіла новы тэлевізар. Дапамагаю ўнукам. А што застаецца, адкладваю на зберажэнне.

**Падрыхтавала Кацярына КАСЦЕВІЧ, Інстытут журналістыкі БДУ.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№28 (1159) 14.07.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 658. Падпісана ў друк у 9.00 13.07.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.